*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 24 красавіка 1987 г. № 17 (3375) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

**Работнікі культуры і мастацтва! Паўней задавальняйце духоўныя запатрабаванні савецкіх людзей! Ствараце творы, сугучныя рэвалюцыйным пераўтварэнням, пафасу перабудовы!**

(З Заклікаў ЦК КПСС да 1 Мая 1987 года).

## У НУМАРЫ:



Мастакі Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў Таццяна Яфанава, Алена Ерафеева, Кацярына Еканчук, Таццяна Новак, Алена Дзяшко, Святлана Буткевіч, Марына Корчык, Тамара Кравец.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# Урачысты сход у Крамлі

70 гадоў назад, у красавіцкія дні, У. І. Ленін абвясціў курс на сацыялістычнае абнаўленне Расіі. Красавіцкімі тэзісамі быў дадзен лозунг дня—лозунг, які павёў на штурм капіталізму народныя масы. Рабочая і сялянская рэвалюцыя, аб неабходнасці якой увесь час гаварылі бальшавікі, здзейснілася.

Яна працягваецца — у цяперашніх нашых справах і клопатах. Правадыр Кастрычніка і сёння з намі. Нарастаючы паступ перабудовы ўсё больш усталёўвае ў жыцці партыі і краіны рэвалюцыйны ленінскі дух, ленінскі стыль у рабоце.

У абстаноўцы разгорнутай барацьбы за ажыццяўленне курсу партыі на паскарэнне, усебаковае абнаўленне жыцця грамадства сустракаюць савецкія людзі 117-ю гадавіну з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. 22 красавіка ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны знамянальнай даце. Тут сабраліся передавікі вытворчасці Масквы і Падмаскоўя, ветэраны КПСС, прадстаўнікі партыйных, савецкіх, грамадскіх арганізацый, дзеячы навукі і культуры, воіны Савецкіх Узброеных Сіл. Прысутнічаюць замежныя дыпламаты, зарубежныя госці.

17 гадзін. Апладысментамі ўдзельнікі ўрачыстага сходу вітаюць таварышаў **Гарбачова М. С., Аліева Г. А., Варатнікова В. І., Грамыку А. А., Зайкова Л. М., Лігачова Я. К., Рыжкова М. І., Саломенцава М. С., Чэбрыкава В. М., Шэварднадзе Э. А., Дземічава П. Н., Далгіх У. І., Ельцына Б. М., Слюнькова М. М., Сакалова С. Л., Талызіна М. У., Бірукову А. П., Дабрыніна А. Ф., Лук'янава А. І., Мядзведзева В. А., Разумоўскага Г. П., Капітонава І. В.**

У прэзідыуме таксама нацыянальны старшыня Камуністычнай партыі Ірландыі М. О'Рыардан, першы сакратар Туніскай камуністычнай партыі М. Хармель.

Тут жа—намеснікі старшынь Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР, сакратары МГК і МК КПСС, ветэраны ленінскай партыі, перадавікі вытворчасці, вядомыя вучоныя, дзеячы культуры, военачальнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

Урачысты сход адкрыў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар МГК КПСС **Б. М. Ельцын.**

Пад зводамі Крамлёўскага Палаца з'ездаў урачыста гучыць Гімн Савецкага Саюза.

З дакладам «Ленінізм — аснова тэорыі і палітыкі перабудовы» выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР **М. І. Рыжкоў.**

Даклад быў выслухан з вялікай увагай і неаднаразова суправаджаўся працяглымі апладысментамі.

Удзельнікі ўрачыстага сходу з натхненнем, стоячы, пяюць «Інтэрнацыянал».

Затым адбыўся вялікі святочны канцэрт.

(ТАСС).

# ДА ВЫБАРАЎ У МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ

**Выбары ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў і выбары народных суддзяў раённых (гарадскіх) народных судоў, якія адбудуцца 21 чэрвеня 1987 года, важная грамадска-палітычная кампанія, правядзенне якой ва ўмовах перабудовы набывае асаблівы сэнс. Не выпадкова на студзеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК КПСС гаварылася пра ўдасканаленне выбарчай сістэмы, паглыбленне яе дэмакратызму, пра больш эфектыўны і рэальны ўдзел выбаршчыкаў на ўсіх стадыях передвыбарнай і выбарнай кампаніі.**

**Дзейсным сродкам у падрыхтоўцы да выбараў становіцца адпаведная грамадска-палітычная літаратура, а таксама даведачныя выданні. У прыватнасці, выдавецтва «Беларусь» да маючых адбыцца выбараў выпусціла на беларускай і рускай мовах брашуры «Палажэнне аб пастаянных камісіях мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Беларускай ССР» і «Закон Беларускай ССР аб гарадскім, раённым у горадзе Савеце народных дэпутатаў Беларускай ССР».**




# «Дзядзька Ваня» і іншыя...

**Завяршыўся фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна»**

Цудоўна, што надарыўся гэты красавіцкі тыдзень... Да фестывальных уражанняў — надзвычай моцных і неадназначных — мы, напэўна, будзем вяртацца неаднойчы. Памятаеце? Звышвынаходлівая, адмысловая рэжысура Эймунтаса Някрошуса... Крыўдны няпоспех нашых спектакляў... «Тальны тэатр» Адольфа Шапіры...

Завяршаў конкурсную праграму спектакль Акадэмічнага тэатра Эстонскай ССР «Ванемуйнэ» «Час пачатку—час развітання», інсцэнізацыя старонак эпапеі класіка эстонскай літаратуры А. Х. Тамсаарэ. Нашы госці з Тарту былі шчыра здзіўлены гарачым прыёмам, аказаным мінскай публікай гэтаму, на іх думку, далёка не лепшаму паказу спектакля, які шмат страціў ад пераносу з роднай сцэнічнай пляцоўкі на падмосткі горкаўскага тэатра. Думаецца, прычына ў сапраўднасці, самабытнасці традыцый нацыянальнай культуры, якую немагчыма падмяніць нават самай вытанчанай стылізацыяй «пад народ».

У апошні фестывальны вечар, перабіраючы ўражанні мінулага тыдня, я міжволі, па рэпарцёрскай звычцы, шукаў «кропку». Знайшоў, але нейкую не ўрачыстую, — тужлівую. Пасля бурных апладысментаў, калі ў чаканні заключнага абмеркавання эстонскага спектакля ў зале і фае прыцішана перагаворваліся ўдзельнікі творчых дыскусій «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны», а на сцэне дзелавіта завіхаліся манціроўшчыкі дэкарацый, — раптам зазвінеў пранізлівы званок. З-пад каласнікоў, павольна, з характэрным грукатам пачала апускацца масіўная пажарная заслона і праз якую хвіліну шчыльна закрыла пустую прастору падмосткаў...

Вось і ўсё. Фестываль «Прыбалтыйская тэатральная вясна», які тыдзень гасцяваў у Мінску, скончыўся.

**— Фестываль стаў сапраўдным святам і выдатнай школай для яго ўдзельнікаў, — сказаў тэатральны крытык Б. Паюроўскі (Масква). — Ён засведчыў розныя ўзроўні тэатральнага мастацтва, вылучыў новыя мастацкія ідэі. Цікавай была конкурсная афіша, на якой пазначана некальні выдатных спектакляў. Бясспрэчныя лідэры сёлетняй «Прыбалтыйскай вясны» (пры розных ацэнках, што, на маю думку, натуральна) — «Дзядзька Ваня» А. Чэхава ў пастаноўцы Маладзёжнага тэатра з Вільнюса і «Заўтра была вайна» Б. Васільева латвійскага ТЮГа. Някрошус робіць замах на традыцыі чэхаўскага тэатра і адкрывае новы свет. Немагчыма забыць каласальнае эмацыянальнае ўзрушэнне, якое застаецца пасля спектакля рыжан. Увогуле, лепшыя сцэнічныя творы фестывалю, звяртаючыся да больш ці менш далёкай гісторыі, скіраваны ў дзень сённяшні і заўтрашні. У гэтым сэнсе, як мне здаецца, заслугоўвае больш высокай ацэнкі (чым тая, што дадзена спецыялістамі на абмеркаванні) пастаноўка шэкспіраўскай «Буры» Акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы — абсалютна сучасны спектакль.**

**У тым, што ў фестывалі ўдзельнічаюць лепшыя спектаклі мінулага сезона ў рэспубліках Прыбалтыкі, Беларусі і Калінінградскай вобласці, мне бачыцца галоўны стымул «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны». Працуючы сёння, мастак павінен памятаць пра «гамбургскі рахунак», якім будзе выпрабоўвацца ягоны твор заўтра.**

21 красавіка адбылася заключная канферэнцыя фестывалю, дзе старшыня журы, начальнік Упраўлення тэатраў і музычных устаноў Міністэрства культуры БССР У. Рылатка абвясціў вынікі творчага спаборніцтва.

**Галоўным прызам «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны-87» узнагароджаны спектакль Маладзёжнага тэатра Літоўскай ССР «Дзядзька Ваня» (спецпрыз журы атрымаў пастаноўшчык Э. Някрошус).**

Традыцыйных фестывальных узнагарод за лепшыя творчыя дасягненні ўдастоены: **А. Шапіра** (рэжысура спектакля «Заўтра была вайна» ў Тэатры юнага гледача Латвійскай ССР імя Ленінскага камсамола), **І. Каваленка** (за выкананне ролі Іскры Паляковай у спектаклі «Заўтра была вайна»), **Я. Тоомінг** (Андрэс Паас у спектаклі Акадэмічнага тэатра Эстонскай ССР «Ванемуйнэ» «Час пачатку — час развітання»), **Л. Шаўчэнка** (за эпізадычную ролю маці Арцёма ў спектаклі «Заўтра была вайна»), **Я. Склярава** (спецпрыз журы за выкананне ролі Канчыты ў спектаклі Калінінградскага абласнога драматычнага тэатра «Апошняя жанчына сеньёра Хуана»). Лепшай на фестывалі была прызнана сцэнаграфія **Б. Герлавана** да спектакля Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Бура».

Уручаны таксама спецыяльныя прызы грамадскіх арганізацый і ўстаноў рэспублікі—арганізатара фестывалю. Сярод іх і прыз рэдакцыі «Літаратура і мастацтва», якім узнагароджаны спектакль «Час пачатку — час развітання» ў пастаноўцы тэатра «Ванемуйнэ».

Фестывальны тыдзень у Мінску завяршыўся. Праз год, у красавіку 1988-га, пазыўныя «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны» склічуць гасцей у Калінінград.

Да новых сустрэч, фестываль...

А. ГАНЧАРОЎ.

# НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ СССР

**Камітэт па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры пры Савеце Міністраў СССР паведаміў імёны кандыдатаў, дапушчаных да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій СССР 1987 года.**

**Сярод іх — народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін.**

**Выдавецтва «Молодая гвардия» і Саюз пісьменнікаў БССР вылучылі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі СССР яго раман «Петраград — Брэст».**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ВАСІЛЮ ВІТКУ—МЕДАЛЬ САВЕЦКАГА ФОНДУ МІРУ



**Васіль Вітка неаднаразова пераводзіў на рахунак Савецкага фонду міру ганарары за свае творы. У прыватнасці, за паэму «Тры хаты», якая летась была змешчана на старонках часопіса «Полымя».**

**На нядаўнім пасяджэнні прэзідыума праўлення СП БССР намеснік старшыні Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру М. Ягораў уручыў Васілю Вітку Ганаровы медаль Савецкага фонду міру, якім пісьменнік узнагароджаны за дзейсны ўклад у справу абароны міру.**

Фота Ул. КРУКА.

# ГВАЗДЗІКІ ЗЕМЛЯКОЎ

**Творчы вечар Вольгі Іпатавай прайшоў у Смаргоні. Нарадзілася пісьменніца на Гродзеншчыне, таму прымалі яе ў Смаргоні як зямлячку, якая не забывае родныя мясціны, сваёй літаратурнай чыннасцю служыць духоўнаму ўзбагачэнню гродзенцаў.**

**У *складзе творчай брыгады* былі крытык з Масквы Лола Званарова, галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Анатоль Кудравец, зямляк смаргонцаў паэт Генадзь Пашкоў, кампазітар Алег Чыркун і іншыя.**

**Адбылася гутарка ў райкоме партыі. Пра эканамічнае і сацыяльнае развіццё раёна гасцям расказалі першы сакратар РК КПБ І. Велькашынскі, старшыня райвыканкома Р. Унучка, старшыня гарвыканкома І. Рак, сакратар РК КПБ В. Картановіч.**

**Чалавечы фактар перабудовы... Тут не толькі клопат пра дбайнае гаспадаранне на зямлі, пра сучасны воблік старажытнага гарадка... Адчувалася глыбокая зацікаўленасць партыйных і савецкіх кіраўнікоў у павышэнні творчага патэнцыялу чалавека працы. Ёсць у раёне свае паэты, мастакі, пры Доме культуры працуе народны ансамбль песні і танца імя М.-К. Агінскага і народны цымбальны аркестр. У аднаўленым Кальвінскім зборы—помніку архітэктуры XVI стагоддзя —мы бачылі цудоўную выстаўку твораў мясцовых народных умельцаў. Не забываюць тут і пра такую каларытную з'яву, як так званая «Смаргонская акадэмія» XVII—XIX стагоддзяў.**

**Творчы вечар В. Іпатавай прайшоў у Доме культуры. І гэта было не толькі літаратурнае свята. Гаварылася на вечары і пра стан сённяшняй беларускай літаратуры, і пра ролю пісьменніка ў перабудове, і пра службу муз у прапагандысцкай рабоце з людзьмі.**

**Гваздзікі Вользе Іпатавай ад землякоў былі шчырай падзякай за яе мастацкае слова, зарукай на далейшае творчае супрацоўніцтва.**

**П. ІВАНЕНКА.**

Фота А. КАЛЯДЫ.



Слова пра творчасць Вольгі Іпатавай гаворыць Сяргей Панізнік.

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

**Алег САЛТУК**



# ЧАС ПАСКАРЭННЯ, СВЕТЛЫ ЧАС...

## *Паэтам–равеснікам*

Натхненне ёсць, пабольш сумлення б
Перад сабой, перад людзьмі...
Радкі снуюцца, нібы цені,
А цень, як пень,—з яго вазьмі!
Радкі пра ўсё і пра нічога,
Хоць рыфма, вобраз — хоць куды!
А крытыкі — гэта ад бога —
Спяваюць на усе лады.
Перабудова, паскарэнне
І свежы вецер перамен...
О, рыфмавання ачмурэнне!
А што канкрэтнага ўзамен?
Ці дапамог каму ты ў нечым,
За праўду ты ці пастаяў,
Узяў ты груз на свае плечы,
Ці на чужыя пераклаў?
Няма сумлення без сумнення
І без пытання:
— Як нам жыць?
А ўжо другое пакаленне
На нас дапытліва глядзіць:
А сярод нас прыстасаванцы
Ці ёсць, куды ідзём з радком?..
Даволі вершаваных танцаў,
Даволі па жыцці бачком!
Час паскарэння — азарэння
Доўгачаканы, светлы час.
Мы людзі — людзі, а не цені,
І, як з людзей, спытаюць з нас.

## *Віцьба*

Віцьба на водмелях б'ецца ўюном —
Даўно на сухоты хварэе...
Тое, што некалі рэчкай было,
Сёння занесена глеем.
Ад нематы да чарнаты
Боль берагоў глыбее.
У наступленне пайшлі кусты,
Салаўі ад смагі самлелі.
Вольгу б з дружынай сёння сюды.
Як бы на гэта яна паглядзела?..
Ткуць павукі дзень і ноч нераты
Над рэчкай пакутліва-белай.

## *Ляўкоўская ноч*

Купалаў кут.
Людзей на пляцы —
Святочны дзень сюды вядзе.
А ўжо да заходу схіляцца
Пачаў затурбаваны дзень.

Пакойчык бы прымружыў дзверы.
Паэт на ўслончыку прысеў.
Вачамі, поўнымі даверу,
У нашы душы паглядзеў.

Здаецца, ўстаў,
І дзверы — насцеж,
Падаўся хуценька за стол...
У клёна здрыгануўся ствол
Ці то ад гора, ці ад шчасця.

Яму на плечы лёг лісток
Далонькай добраю шурпатай...
Ляціць у Вязынку крылаты,
З пісьмом любві, маладзічок.

## *Улада жыцця*

Непахісная ўлада вясны —
Сок пацёк,
Мурашы заснавалі.
Караценюць вясновыя сны,
Падаўжэлі дарогі і далі.

Дзень зямлі цеплыню падарыў.
Трактары на палях загудзелі.
Хлебароб ад зары да зары
Сее хлеб і святлее надзеяй.

На жыццё, на дзяцей і на мір—
Найвялікшая гэта надзея!
Не стыкаецца брыгадзір
Дома нат і ў нядзелю.

— Вось адсеемся і тады
Май сустрэнем і Перамогу...
Зацвітаюць пад сонцам сады.
Апроч міру, не трэба нічога!

**СУСТРЭЧЫ У РЭДАКЦЫІ**

# «АБАВЯЗАК МАСТАКА— БЫЦЬ РАЗАМ З НАРОДАМ»



Файез РАШЫД і Васіль БЫКАЎ. Фота Ул. КРУКА.

**Нядаўна гасцямі рэдакцыі «Літаратура і мастацтва» былі народны пісьменнік БССР Васіль Быкаў і палесцінскі журналіст і медык Файез Рашыд, супрацоўнік часопіса «Эль-Хадаф» («Мэта»)—аднаго з выданняў АВП. Творчасць Васіля Быкава, кнігі якога шырока выдаюцца за рубяжом, вядома і арабскаму чытачу. Так, у 1967 годзе ў Каіры выйшла «Трэцяя ракета» ў перакладзе вядомага арабскага пісьменніка Ахмада Адама Мухамеда. У 1981 годзе выдавецтва «Прагрэс» (Масква) апублікавала на арабскай мове аповесць «Сотнікаў». Перакладаліся на арабскую мову і іншыя творы пісьменніка. Вялікую цікавасць да творчасці Васіля Быкава, па словах Ф. Рашыда, праяўляюць і чытачы палесцінскага часопіса.**

**Паміж арабскім госцем і беларускім пісьменнікам адбылася гутарка, са зместам якой, безумоўна, цікава будзе пазнаёміцца нашаму чытачу.**

**Адказваючы на пытанне, чаму тэма Вялікай Айчыннай вайны, тэма гераізму займае выключнае месца ў творчасці пісьменніка, Васіль Быкаў сказаў:**

— Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне савецкага народа, па сутнасці, вырашыла лёс усёй еўрапейскай, а можа быць, і сусветнай цывілізацыі. Перамога над фашызмам аплачана мільёнамі жыццяў савецкіх людзей. У вайне загінуў кожны чацвёрты жыхар маёй роднай Беларусі. Я быў удзельнікам вайны. І мой маральны выбар прадыктаваны маральным выбарам тых, хто загінуў у барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў, памяццю аб незлічоных ахвярах і пакутніках вайны.

Што датычыцца тэмы гераізму — яна адна са складанейшых у літаратуры. Быў час, калі гераізм вызначаўся выключна колькасцю знішчаных на полі бою ворагаў. Такі спрошчаны падыход, можна сказаць, панаваў у літаратуры, і не толькі ў літаратуры, у першы пасляваенны час. Той факт, што подзвіг у вайне здзейсняў увесь народ — і салдаты, і партызаны, і падпольшчыкі, і проста мірныя жыхары: старыя, жанчыны, дзеці — патрабаваў асэнсавання, патрабаваў новага ўзроўню праўды. У пошуках гэтай праўды і нараджаўся новы герой у ваеннай літаратуры. Настаўнік Мароз у маёй аповесці «Абеліск» не здзяйсняе ратных подзвігаў, ён проста да канца застаецца верным свайму абавязку, застаецца чалавекам у нечалавечых абставінах. І таму ён, і такія, як ён, заслужылі, каб імёны іх занялі сваё месца на абеліску памяці.

**— Тэме вайны прысвечана агромністая колькасць кніг. Ці можна сказаць, што яна ў цэлым ужо вычарпала сябе?**

**В. Быкаў на гэтае пытанне адказаў так:**

— Апошнія факты ў літаратурным жыцці начыста абверглі гэтае меркаванне. Як прыклад, можна прывесці творы Святланы Алексіевіч. Пісьменніца апытала амаль паўтысячы чалавек. Гэта былі жанчыны-удзельніцы Айчыннай вайны. У выніку нарадзілася кніга «У вайны не жаночы твар», якая адразу стала з'явай у літаратуры. Потым з'явілася кніга, напісаная паводле дзіцячых успамінаў. Я перакананы, што тэма вайны — невычарпальная.

**— У Савецкім Саюзе зараз адбываюцца падзеі гістарычнай важнасці. Ідзе перабудова. А што, па-вашаму, перабудова для пісьменніка?**

— Я думаю, што такім пісьменнікам, як Ч. Айтматаў, В. Астаф'еў, В. Распуцін і іншым, якія многа зрабілі сваёй творчасцю для перабудовы, рыхтавалі да яе нашу свядомасць, а тым самым і набліжалі сённяшні дзень, няма патрэбы пад нешта «перабудоўвацца», мяняцца ў сваёй сутнасці. А вось збаўляцца ад ілюзій неапраўданага аптымізму, набытага ў гады грамадскага застою, трэба яшчэ многім у літаратуры.

**Ф. Рашыд папрасіў субяседніка даць параду маладым пісьменнікам, прадстаўнікам палесцінскага народа — народа, які апынуўся ў трагічным становішчы выгнанніка.**

— Нас глыбока хвалюе лёс палесцінцаў, — сказаў В. Быкаў. — Мы ведаем, што 4,5 мільёна жыхароў Палесціны знаходзяцца цяпер у розных краінах на становішчы бежанцаў, ведаем пра пакуты жыхароў палесцінскіх лагераў у Ліване, пра мужную барацьбу вашага народа за сваю нацыянальную самастойнасць. Цяжка даваць якія-небудзь парады вашым пісьменнікам. Адно можна сказаць: абавязак пісьменніка заўсёды быць са сваім народам, нават у самыя цяжкія дні. Літаратура не заўсёды можа паказаць выйсце. Але мастацтва дапамагае глыбей асэнсаваць жыццёвыя з'явы, дапамагае ў пошуках гэтага выйсця, у пошуках ісціны. Нават у самых тупіковых сітуацыях літаратура павінна несці слова праўды. Іншага шляху для літаратуры проста няма. Лепш праўда, чым ілюзіі. Сумленна служыць свайму народу — гэта значыць, гаварыць яму праўду. Я думаю, гэта верна ў адносінах да кожнага народа. Беларускі народ зведаў таксама шмат пакут і зняваг, і ён таксама адчуваў і адчувае неабходнасць ведаць праўду аб сабе, аб сваёй гісторыі. Сёння кожны народ можа аказацца ў драматычнай сітуацыі, ядзерная катастрофа пагражае ўсім. І пазіцыя мастака павінна быць у першую чаргу сумленнай пазіцыяй. Мастак павінен заставацца верным самому сабе, верным праўдзе.

**Запісаў Віталь ТАРАС.**

# ТВОРЧЫ ВЕЧАР ПАЭТЭСЫ



Ніна Мацяш (у цэнтры) дае аўтографы. Злева Уладзімір Калеснік.

**Зала Палаца культуры Брэсцкага аблсаўпрофа. На сцэне за столікам загадчык кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна, прафесар Уладзімір Калеснік і лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова і прэміі абласной камсамольскай арганізацыі Ніна Мацяш. Чароўныя гукі лірычнай песні В. Фяцісава на верш паэтэсы «Галубка» прыпыняюць цёплыя апладысменты шматлюднай аўдыторыі.**

**Так пачаўся творчы вечар Н. Мацяш, які арганізавалі Брэсцкі абком ЛКСМБ, кафедра беларускай літаратуры БрДПІ імя А. С. Пушкіна, Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР і Брэсцкая абласная студыя тэлебачання.**

**Пра творчасць і жыццёвы шлях Н. Мацяш, самабытнасць яе паэтычнага слова расказаў У. Калеснік. Ён падрабязна спыніўся на апошнім зборніку паэтэсы «Паварот на лета».**

**Апладысментамі сустрэлі прысутныя «Песню пра Белазёрск» самадзейнага кампазітара В. Гароха, якую выканалі землякі Н. Мацяш, рамансы заслужанага работніка культуры БССР І. Вінаградавай «Я вас люблю», «Вяртанне ў вясну» ў выкананні аўтара, а таксама песню на верш паэтэсы «Я цябе люблю, а ты не слухай», якую напісаў і выканаў загадчык аддзела прапаганды Іванаўскага райкома партыі Р. Сыраватка, песні А. Хвораста «Я прыеду, як выпадзе снег» і «Васілёк» у выкананні вакальна-інструментальнага ансамбля «Мушкецёры».**

**Вершы Н. Мацяш чыталі студэнты філалагічнага факультэта педінстытута С. Кабраль, Т. Петрусевіч, Ж. Селюжыцкая, Н. Герман, М. Нарывончык, Н. Пакала, С. Зарэцкая.**

**Сваімі ўражаннямі пра творчасць Н. Мацяш падзяліліся настаўнікі брэсцкіх школ, выкладчыкі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў горада, вучні і студэнты. Паэтэса адказала на шматлікія пытанні гледачоў, прачытала новыя вершы, расказала пра творчыя планы.**

**У. СЕНЬКАВЕЦ.**

# ПАМЯЦІ Т. ХАДКЕВІЧА



Выступае Іван Шамякін.

**Чалавекам чыстай душы, пісьменнікам, чуйным да подыху сучаснасці, застаўся ў літаратуры Тарас Хадкевіч. Яго лепшыя творы, сярод якіх раман «Песня Дзвіны»,—усхваляванае слова пра тых, хто будуе новае жыццё. Акрамя таго, Т. Хадкевіч выдаў не адзін зборнік для дзяцей, з'яўляецца сааўтарам кнігі «Мы расказваем пра Мінск», займаўся перакладамі.**

**Аб гэтым нагадвалася ў Доме літаратара на вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння Т. Хадкевіча. Плённасць мастакоўскіх пошукаў Т. Хадкевіча адзначалі вядучы вечара народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, П. Кавалёў, А. Савіцкі, Р. Няхай, С. Грахоўскі, С. Шушкевіч.**

**На заканчэнне вечара артысты мінскіх тэатраў прачыталі паасобныя старонкі з твораў пісьменніка.**

Тэкст і фота Ул. КРУКА.

**НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА**

**КАР.: — Шмат гадоў мы пахваляліся, што, маўляў, наша вышэйшая школа — лепшая ў свеце. Між тым, у падрыхтоўцы і выкарыстанні спецыялістаў пакрысе сталі назапашвацца шматлікія праблемы, нарастаць негатыўныя з'явы. Таму вельмі своечасовымі, актуальнымі з'явіліся зацверджаныя ЦК КПСС «Асноўныя напрамкі перабудовы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў краіне». Перабудова, натуральна, закране ўсе бакі гэтай галіны. Але ж нешта ёсць тут і галоўнае, першачарговае? Вы, Фёдар Васільевіч, узначальваеце адну з самых прэстыжных вышэйшых навучальных устаноў у рэспубліцы, працуеце тут рэктарам каля двух дзесяткаў гадоў і, несумненна, ведаеце ўсе плюсы і мінусы сённяшняга стану вышэйшай школы...**

# Вышэйшая школа: час здзяйсненняў

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыць з рэктарам Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. В. Куйбышава, прафесарам Ф. В. БАРАВІКОМ**

**Ф. Баравік:** — Цяжка вызначыць найбольш важную праблему. Усе — важныя. І пытанні інтэграцыі асветы, вытворчасці і навукі, і якасць падрыхтоўкі спецыялістаў, і выхаванне ідэйна і грамадска актыўных працаўнікоў, і г. д.

**КАР.: — З майго ўласнага, праўда, далёкага ў часе, студэнцкага вопыту, ды і з вопыту сына, які параўнаўча нядаўна закончыў ВНУ, ведаю, што існуе пэўны разрыў паміж тым, што табе выкладалі ў інстытуце, і тым, з чым ты сустракаешся на практычнай рабоце...**

**Ф. Баравік:** — Прадугледзець у інстытуце ўсе жыццёвыя калізіі, у якія трапяць нашы выпускнікі, відаць, немагчыма. Галоўнае, як я разумею, навучыць студэнта не толькі прафесіі, а і ўменню творча, самастойна мысліць. Тады ён знойдзе выйсце з самай складанай сітуацыі. Выхаванне ў студэнта такіх якасцей — адно з патрабаванняў «Асноўных напрамкаў».

**КАР.: — Мы ведаем, як цяжка ідзе перабудова ў народнай гаспадарцы. Адна з прычын гэтага — коснасць, кансерватызм, беднасць тэарэтычнага багажу многіх камандзіраў вытворчасці. Усе яны, як правіла, маюць вышэйшую адукацыю, у тым ліку і эканамічную. Але, пэўна, у інстытутах іх не навучылі навукова мысліць, спалучаць навуку з практыкай. Ці мо навука такая, што не стасуецца з жывой канкрэтнай справай? Не сакрэт, што, напрыклад, эканамічная навука ў нас многія гады вызначалася дагматычным падыходам да многіх праблем развіцця грамадства. Ідзе гэта, мусіць, з тых часоў, калі Сталін прысвоіў сабе манапольнае права на «сапраўднае» разуменне марксізму-ленінізму, права на дыктат ва ўсіх навуках, у тым ліку і эканамічнай. Сталіна даўно няма, але і пасля яго, на жаль, рабіліся спробы па-валюнтарысцку вырашаць, які эканамічны закон адпавядае сацыялізму, а які ідзе ў разрэз з ім. Ці не таму сёння эканамічная навука вымушана, пасля доўгага таптання на месцы, даганяць жыццё?**

**Ф. Баравік:** — Да эканамічнай навукі сапраўды можна прад'явіць немалы рахунак, далёка не ва ўсіх пытаннях яна задавальняла патрэбы практыкі. Але несправядліва вінаваціць навуку за ўсе дэфармацыі экономікі. Іншая справа, што вучоныя-эканамісты не заўсёды настойліва змагаліся за тое, каб ісціна святкавала перамогу.

**КАР.: — У вестыбюлі вашага інстытута вісіць стэнд, на якім вызначаны параметры наргаса: на шасці факультэтах дзённага і завочнага навучання займаюцца каля дванаццаці тысяч студэнтаў. За гады існавання інстытут перадаў народнай гаспадарцы каля 50 тысяч дыпламаваных спецыялістаў. Але ці з'яўляецца дыплом гарантам таго, што яго ўладальнік не ператворыцца ў сляпога выканаўцу, гэткага сталаначальніка? Я думаю, невыпадкова ў «Асноўных напрамках» выкладзена і такое патрабаванне: «У падрыхтоўцы эканамістаў неабходна забяспечыць спалучэнне высокага ўзроўню палітыка-эканамічнай адукацыі з глыбокімі ведамі тэорыі і практыкі кіравання сацыялістычнай эканомікай». Між іншым, мне расказалі, што цяпер у ВНУ вывучаюць палітэканомію сацыялізму па тых жа падручніках, што і ў канцы саракавых гадоў.**

**Ф. Баравік:** — Гэта няпраўда. Падручнік па палітэканоміі сацыялізму шмат разоў перавыдаваўся, у яго ўнесена шмат дадаткаў, перагледжаны многія палажэнні. Курс лекцый па гэтай дысцыпліне ў нас цесна ўвязваецца з усімі навацыямі ў галіне эканомікі, грамадскага жыцця, з вызначаным партыяй курсам на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Хачу, між іншым, заўважыць, што нельга, як гэта робяць некаторыя, асацыіраваць гісторыю нашай сацыялістычнай Радзімы толькі з аднымі памылкамі. За 70 гадоў Савецкай улады наша краіна дамаглася вялікіх перамог, што прызнаюць нават нашы ворагі.

**КАР.:—Гэта не патрабуе доказаў. «Перабудова — не адмаўленне мінулага, — сказаў у сваім выступленні на сустрэчы з навуковай і мастацкай інтэлігенцыяй у Душанбе кандыдат у члены Палітбюро, сакратар ЦК КПСС А. М. Якаўлеў, — але адмаўленне таго ў мінулым, што мы не можам, не маем права браць з сабой у будучыню». Дазвольце працытаваць ужо і далей: «У агульным шэрагу хвароб, якія паразілі духоўную сферу, навуковую думку, асабліва месца займае дагматызм. Асабліва па маштабах яго распаўсюджання, і па сіле яго ўздзеяння, якое змярцвяе, і па ступені яго пагрозы курсу на паскарэнне, бо дагматызм самой прыродай сваёй адмаўляе развіццё».**

**Ф. Баравік:** — Зыходзячы менавіта з небяспекі дагматызму ў навуцы, мы павінны перагледзець падыход да выкладання многіх дысцыплін. У «Асноўных напрамках» гаворыцца, што «неабходна істотна актывізаваць навуковую дзейнасць выкладчыкаў кафедраў сацыяльна-эканамічных дысцыплін па даследаванні праблем грамадскага развіцця». Хачу падкрэсліць, што ў нашым інстытуце значны і навуковы патэнцыял. 64 працэнты выкладчыкаў маюць вучоную ступень. 36 навуковых работнікаў абаранілі доктарскія дысертацыі або сталі прафесарамі. Гэтыя паказчыкі вышэй сярэднерэспубліканскіх. Сёння эканамічнай навуцы надаецца вялікае значэнне. Гэта дыктуе час, дыктуе пераход ад адміністрацыйных метадаў кіравання да эканамічных. Ва ўмовах кардынальнай перабудовы з улікам задач гаспадарчай рэформы роля планавых, фінансавых і іншых эканамічных службаў, для якіх мы рыхтуем кадры, узрастае. Адзначым, што і сёння яшчэ на многіх прадпрыемствах і ва ўстановах эканамічную работу часта выконваюць людзі без спецыяльнай адукацыі.

**КАР.: — Неаднаразова даводзілася чытаць, што ў многіх краінах Захаду навучальныя ўстановы з'яўляюцца адначасова і буйнымі навуковымі цэнтрамі.**

**Ф. Баравік:** — Цяпер ставіцца задача па ўзмацненні сувязі вузаўскай, акадэмічнай і галіновай навук, пераадоленні іх раз'яднанасці. На маю думку, немалы эфект можа даць стварэнне навуковых падраздзяленняў на базе навучальных устаноў з арганізацыяй даследчых, праблемных і галіновых лабараторый пры факультэтах і кафедрах. Цяпер мы выконваем навуковых гаспадарча-разліковых работ больш чым на мільён рублёў у год, а ў выпадку, пра які я сказаў, можна было значна больш. Што нас стрымлівае, дык гэта адсутнасць сучаснай камп'ютэрнай тэхнікі. Ведаеце, я быў у Англіі, наведаў там некалькі навучальных устаноў. Асабліва ўразіла мяне насычанасць камп'ютэрамі— розных памераў, рознага прызначэння. Яны ёсць і ў дэканатах, і ў вучэбных класах, нават у бібліятэках. Камп'ютэрызацыя павышае прадукцыйнасць працы вучонага, а мы пра гэта не дбаем. Сорамна прызнацца, але ў нашым інстытуце ўсяго два камп'ютэрныя класы, ды і тыя абсталяваны далёка не сучаснымі прыборамі. Але ёсць у нас надзеі на хуткія перамены ў справе матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, што, дарэчы, прадугледжана «Асноўнымі напрамкамі».

**КАР.:—У дакуменце, пра які мы сёння з вамі гутарым, напісана: «Першачарговая задача — ажыццявіць рашучы паварот ад масавага, валавага навучання да ўзмацнення індывідуальнага падыходу, развіцця творчых здольнасцей у будучых спецыялістаў». Мусіць, яшчэ гадоў дзесяць назад інстытут народнай гаспадаркі не лічыўся прэстыжным. Цяпер тут ці не самы высокі ў рэспубліцы конкурс абітурыентаў. У чым справа? Моладзь раптам павярнулася да эканамічнай навукі? Высокааплачваемая прафесія? Быццам — не. Бухгалтары, эканамісты, таваразнаўцы, ведаю, атрымліваюць невысокую зарплату. Але з такой зарплатай маладыя людзі ахвотна ідуць працаваць, напрыклад, у гандаль. Ідуць, відаць, каб быць бліжэй да дэфіцыту, наогул, да матэрыяльных каштоўнасцей?**

**Ф. Баравік:** — Крыўдна, вядома, што сёй-той паступае ў наш інстытут (у нас сапраўды вельмі вялікі конкурс на гандлёва-таваразнаўчым факультэце) толькі для таго, каб апынуцца, так сказаць, па той бок прылаўка. Неяк мы правялі сярод студэнтаў ананімнае апытанне аб выбары прафесіі. Пра што мы даведаліся? Пра тое, што больш чым для паловы студэнтаў наргас выбралі бацькі, трыццаць працэнтаў падалі сюды заявы, паслухаўшыся парады сяброў, і толькі дваццаць працэнтаў юнакоў і дзяўчат паступілі ў наш інстытут, кіруючыся асабістымі схільнасцямі. Вядома, адсюль не вынікае, што той, хто не зрабіў пасля школы ўласнага выбару прафесіі, пасля заканчэння інстытута будзе благім спецыялістам. Дарэчы, сярод гэтай «катэгорыі» студэнтаў шмат выдатнікаў вучобы.

**КАР.: — «Выдатнік вучобы»... Ці не мяркуем мы, бывае, аб студэнце толькі па адзнаках у яго заліковай кніжцы? Ну і яшчэ па тым, як ён удзельнічае ў грамадскай рабоце? Але ж ірвецца ў выдатнікі, у актывісты, бывае, малады кар'ерыст, які ўжо з першага курса «вылічыў», што калі будзе выдатна вучыцца, атрымае добрае размеркаванне, не куды-небудзь, а ў сталіцу... Мне даводзілася сустракаць добрых спецыялістаў (ва ўсякім разе, так іх характарызавалі на працы)— наскрозь прагматыкаў, а адсюль — канфармістаў у нейкай меры, а то і прыстасаванцаў. Пра такога кажуць — «Затое ён ведае справу». Але ці задумваемся мы, якую цану плаціць грамадства за гэтае часам дзяляцкае «веданне»?**

**Ф. Баравік:** — Вы закранулі вельмі балючае пытанне. Чалавек з двайным дном? Крывадушша, цынізм, няшчырасць — якасці гэтыя, вы ведаеце, пэўны гістарычны адрэзак часу не сустракалі асуджэння, нават аб'ектыўна культываваліся. Я за адкрытасць. Мне асабіста падабаюцца студэнты, якія не прымаюць адразу на веру ўсяго, што ты ім прапануеш на лекцыях, жадаюць самі ва ўсім разабрацца, прагнуць спрэчак, дыскусій. Ведаю, што на ўсе пытанні, хай самыя вострыя, трэба адказваць шчыра, не хавацца за гучныя фразы. Гаворачы пра хібы ў выхаванні маладых людзей, Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў у сваім выступленні на XX з'ездзе ВЛКСМ заўважыў: «Мы замучылі нашу моладзь пропаведзямі... Я не адмаўляю, што лекцыі, адукацыя — гэта патрэбны этап у жыцці, асабліва маладога чалавека. Але не яны сфарміроўваюць у рэшце рэшт асобу». Гэта сапраўды дасягаецца не на лекцыях. Вунь як апраўдалі сябе і ў гэтым сэнсе студэнцкія будаўнічыя атрады! Даверылі юнакам справу — і яны адчулі адказнасць. Члены нашага атрада «Світанак» працавалі ў якасці праваднікоў на чыгунцы, атрад «Спадарожнік» працуе на жывёлагадоўчай ферме, выдатна сябе зарэкамендаваў студэнцкі аграканвеер: поле — магазін...

**Кар.: — Я з цікавасцю прачытаў у «Асноўных напрамках», што пагоня за колькасцю дысцыплін прывяла да перагрузкі навучэнцаў, перашкаджала развіццю навыкаў самастойнага творчага мыслення. Сапраўды, сума прадметаў, якія выкладаюцца, гэта яшчэ не сума ведаў. Каб пераканацца ў гэтым, варта паглядзець на студэнта ў час экзаменацыйнай сесіі — чырвоныя вочы (усю ноч штудзіраваў канспект), пальцы дрыжаць ад хвалявання (каб хоць здаць на стыпендыю)... Адным словам — стрэсавая сітуацыя. Пра якія трывалыя веды можа ісці тут гаворка?**

**Ф. Баравік:** — У бліжэйшы час у вышэйшых навучальных установах будзе зменены план абавязковых аўдыторных заняткаў. Гэта значыць, стане менш лекцый і больш магчымасцей для самастойнай працы. Самастойная праца, вядома, будзе дапоўнена сістэмай кантролю — тэматычнымі залікамі, рэфератамі, гутаркамі.

**КАР.: — У «Асноўных напрамках» гаворыцца пра залішнюю спецыялізацыю ў ВНУ...**

**Ф. Баравік:** — Сапраўды, вузкага спецыяліста можна толькі і «вузка» выкарыстоўваць. Мы рыхтуем для народнай гаспадаркі работнікаў па 17 спецыяльнасцях. Думаю, што гэты лік трэба зменшыць удвая. Я вам прывяду такі прыклад. Толькі па спецыяльнасці «бухгалтарскі ўлік» існуе яшчэ некалькі больш дробных спецыялізацый па галінах народнай гаспадаркі: прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, бюджэтных арганізацый, гандлю і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і г. д.

Праз чатыры гады, калі студэнта трэба ўжо выпускаць са сцен інстытута, аказваецца, сітуацыя ў народнай гаспадарцы змянілася і, скажам, для прамысловасці ўжо не трэба столькі спецыялістаў-бухгалтараў... Таму я прапаную вузкую спецыялізацыю праводзіць не з першага курса, як цяпер, а пазней, пасля размеркавання— яго, вядома, трэба будзе перанесці на больш ранейшы тэрмін, калі мы будзем ведаць больш дакладна, колькі і якіх спецыялістаў нам рыхтаваць.

**КАР.: — Чаму гэтая ідэя ўзнікла толькі цяпер, Фёдар Васільевіч?**

**Ф. Баравік:** — Шмат у рабоце ВНУ сабралася было баласту, усё часцей давалі сябе адчуваць застойныя з'явы. Ведаеце, яшчэ і сёння літаральна кожны крок рэктара рэгламентуецца шматлікімі пастановамі, інструкцыямі, цыркулярамі.

**Фёдар Сцяпанавіч дастае з шуфляды два ёмістыя тамы з аднолькавай назвай: «Вышэйшая школа. Зборнік асноўных пастаноў і інструкцый».**

— Паспрабуй, праігнаруй хоць якую-небудзь з гэтых інструкцый...

**КАР: — Многія спецыялісты, я ведаю, скардзяцца на вытворчую «цякучку», якая так «заядае», што няма часу зазірнуць у спецыяльную літаратуру, даведацца, што новага адбылося ў галіне, з якой звязана твая прафесія.**

**Ф. Баравік:** — Я лічу, што павышэнне кваліфікацыі сталых кадраў — задача не менш важная, чым падрыхтоўка новых. У нашым інстытуце створаны два факультэты — адзін для павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў народнай гаспадаркі, другі — для перападрыхтоўкі арганізатараў прамысловай вытворчасці.

**КАР.:—Зараз шмат гавораць пра студэнцкае самакіраванне...**

**Ф. Баравік:** — Рыхтуецца да публікацыі праект Палажэння аб студэнцкім самакіраванні. Але мы ўжо цяпер цалкам даверылі самім студэнтам жыццё нашых інтэрнатаў. Каму даць месца ў інтэрнаце — таксама вырашаюць самі студэнты. Размеркаванне стыпендый — і тут абавязковы ўдзел студэнтаў.

**Гутарку правёў М. ЗАМСКІ.**

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

**Міхась БАШЛАКОЎ**



## *Хроніка аднаго перасялення*

Як навала якая,
Нечакана, нязвана
Наляцела бяда.
Як баліць гэта рана...
«Нездарма,
Цётка Хрысця казала, —
Птушка ўночы крычала
За вёскай жахліва,
Трывожна...
Нездарма
У калодзежы знікла вада
Перад гэтай бядою.
А цяпер і не трэба
Хадзіць за вадою...»
Анікога няма.
Апусцела
Палеская вёска.
І машыны з малымі,
І павозкі
Па шляхах зарыпелі...
Ні набыткаў, ні клункаў.
Толькі ў хустачку дакументы
Ды са сцен паздымалі партрэты —
Памяць гэта...
Бабкі ж неслі іконы.
У іх, вядома, свае законы.
Ні набыткаў, ні клункаў.
Адны невялічкія думкі,
Ад якіх распухаюць галовы.
Непадоеныя каровы
Услед раўлі.
І завывалі сабакі
На падворках...
Хто пакорміць іх?
Горка...
Дзед Мікіта — былы ваяка
Смаркаўся і плакаў,
І казаў:
«Нікуды не паеду
Ад роднай зямлі,
Ад магіл...
Перад смерцю бадзяцца па свету?
Не паеду.
Мала сіл
Засталося...»
«Што ты, дурань стары? —
Бабка Прося галосіць.—
Радыяцыя...»
«Ат, прывыклі даўно...
Усё адно
Радыяцыя,
Меліярацыя...
Хай яно ўсё згарыць...
Не паеду, сказаў,
Тут застануся жыць,
Буду тут паміраць...»
І упала сляза
У горкі пыл на дарогу,
Па якой да парога
Няскора
Павернуцца людзі...
«Го-о-о-ра...» —
Ляціць над прасторам,
І адгалоссе
Вецер разносіць...
«Божа, што ж гэта будзе?» —
Бабка Прося галосіць.
І адчай, і трывога
У жаночых вачах...
Толькі пыл над дарогай,
Шэры пыл не ачах.
Міма хаты,
Праз поле
Машыны, павозкі.
Адгукаецца болем
Апусцелая вёска...
«Дзед Мікіта, пайшлі,
Мы — салдаты, —
Старшыня адвярнуўся,
Слязу неўпрыкметку
Пальцамі выцер, —
Пажывём на Зямлі.
Будуць вёскі, палеткі.
І белыя гусі
Зляцяцца на Прыпяць...
Нам, салдатам, ці плакаць?»

...Услед каровы раўлі
І завывалі сабакі.

●

На Убарць туманам апусціцца вечар,
Прамчыцца няспутаны конь за сяло,
І сэрца, як восеньскі ліст, затрапеча
І ў хатах над рэчкай запаляць святло.

Дзяўчаты зацягнуць прыгожую песню.
За песню такую чаго не дасі.
І першая зорка на небе Палесся
Святлом адгукнецца на іх галасы.

«Ідылія, — скажуць. — Знайшоў яе недзе...»
Які я шчаслівы, што ёсць яна, ёсць!
Лілея на цёмнай вадзе яшчэ свеціць,
А побач на дубе славянская борць.

І крык шэрай чаплі, і клёкат бусліны,
І плача апошняя ў свеце гармонь...
Палессе, Палессе... Мая тут радзіма.
У змроку трапеча, не гасне агонь.

# Ад размоў пра поспехі... устрымаемся

Міхась МУШЫНСКІ

Выступаючы перад кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды на сустрэчы ў ЦК КПСС, прысвечанай актуальным задачам друку, тэлебачання і радыёвяшчання, М. С. Гарбачоў высока ацаніў намаганні тых пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва, публіцыстаў, хто і ў папярэднія гады выяўляў глыбокую заклапочанасць станам грамадства, з прынцыповых, партыйных пазіцый выкрываў негатыўныя, застойныя з'явы ў розных галінах нашага жыцця. «Літаратура, — сказаў М. С. Гарбачоў, — рыхтавала грамадства да перамен, трывожыла грамадскае сумленне. Некаторыя публіцысты смела выступалі за тыя ідэі, якія сёння набылі сілу партыйных і дзяржаўных рашэнняў у эканоміцы, культуры, асвеце» («Праўда», 1987, 14 лютага). Але зроблены толькі першыя крокі па ажыццяўленні намечаных XXVII з'ездам планаў рэвалюцыйнага пераўтварэння ўсіх бакоў жыцця савецкага грамадства. Галоўная задача перыядычнага друку, сродкаў масавай інфармацыі,—падкрэсліў М. С. Гарбачоў, — яшчэ больш інтэнсіўна і мэтанакіравана садзейнічаць працэсу перабудовы, аб'ядноўваць і мабілізоўваць людзей на вырашэнне канкрэтных, практычных спраў, усяляк падтрымліваць парасткі новага, друкаваным словам змагацца за ўсталяванне праўды, сацыяльнай справядлівасці, публічнасці як нормы грамадскага жыцця.

Як жа сёння перабудоўвае сваю работу беларускі літаратурна-крытычны цэх? На сумесным пасяджэнні секцыі прозы і секцыі крытыкі і літаратуразнаўства, якое адбылося ў пачатку года, гаварылася аб тым, што працэс перабудовы ідзе з цяжкасцю, што сітуацыя ў літаратурна-мастацкай крытыцы даволі супярэчлівая. У яе дзейнасці назіраюцца разнародныя тэндэнцыі, новае пракладвае сабе дарогу ў сутыкненні са старым.

Сёння мы яшчэ не можам сказаць, што крытыка ўпэўнена кантралюе сітуацыю ў літаратуры. Прычын такога становішча — шмат, бо ўзровень крытыкі залежыць ад агульнага ўзроўню грамадскай атмасферы. Як ні цяжка прызнавацца, але прадстаўнікі крытычнай службы вельмі доўга займаліся своеасаблівымі «прыпіскамі» ў працэсе публічнай здачы чытачам мастацкай прадукцыі: яны часта прыпісвалі творам якасці, якіх там не было, хвалілі творы, дзе адсутнічала глыбокае пранікненне ў рэальныя супярэчнасці і канфлікты.

Сёння такіх «прыпісак», бясспрэчна, паменшала. І гэта радуе. Радуюць і некаторыя іншыя факты. Напрыклад, тое, што крытыкі смялей выходзяць за традыцыйныя цэхавыя праблемы, і прадметам іх пільнай увагі, грамадзянскай зацікаўленасці становяцца многія наболелыя пытанні грамадскага жыцця: функцыяніравання сучаснай беларускай мовы, пытанні экалогіі, захавання гістарычных помнікаў, помнікаў культуры і г. д.

Вялікі грамадскі рэзананс набыла апублікаваная на старонках штотыднёвіка гутарка народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава з чытачамі ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна напярэдадні Новага, 1987 года.

Звярнулі на сябе ўвагу і некаторыя іншыя выступленні літаратурных крытыкаў, вучоных, майстроў мастацкага слова. Сярод іх у першую чаргу назавём праблемныя выступленні, глыбокія па змесце артыкулы «Крытэрый — праўда і характэр» У. Калесніка («ЛіМ», 22.8.1986), «Пара асэнсавання» —адказы В. Каваленкі на пытанні карэспандэнта («ЛіМ», 24.10.1986), «Хто і што ў заняпадзе» А. Петрашкевіча («Полымя», 1986, № 4), «Плыві, рачулка, вечна» Я. Лецкі («Маладосць», 1986, № 6), Выхаванне творчасцю» М. Лазарука («Полымя», 1986, № 7), «Традыцыі, пошук, эксперымент» В. Віткі («Полымя», 1986, № 8), «Урокі праўды, урокі жыцця» П. Дзюбайлы («Коммунист Белоруссии», 1986, № 11), «Каб крытыка была крытыкай...» К. Цвіркі («ЛіМ», 12.12.1986), «Дасягнуты ўзровень» К. Тарасава («ЛіМ», 21.11.1986), «Кнігі становяцца на паліцы» — дыялог Р. Баравіковай і М. Тычыны («ЛіМ», 28.11.1986), «Няма лепш фрэгата, як кніга...» А. Сямёнавай («ЛіМ», 26.12.1986), «Нам засталася спадчына» А. Сідарэвіча («Звязда», 16.1.1987).

Месца і роля пісьменніка ў барацьбе за сацыяльны прагрэс, за бяз'ядзерны мір, беларуская літаратура на ўсесаюзным і еўрапейскім кантэксце па-ранейшаму заставалася ў цэнтры выступленняў А. Адамовіча.

Шэраг змястоўных матэрыялаў на літаратурныя і грамадска-палітычныя тэмы змешчаны крытыкамі, паэтамі і празаікамі ў іншых рэспубліканскіх выданнях, у тым ліку на старонках часопіса «Беларусь». Да відавочнага набытку часопіса трэба аднесці змешчаныя тут цікавыя творчыя партрэты многіх беларускіх пісьменнікаў.

Мінулы год быў даволі шчодры на літаратурна-крытычныя, гісторыка-літаратурныя працы, кнігі пісьменніцкай крытыкі. На жаль, доля бягучай крытыкі сярод прыгаданых кніг — мізэрная: «Пячатка майстра» М. Стральцова, «Выберы — жыццё» А. Адамовіча, «Панарама сучаснай беларускай прозы» П. Дзюбайлы, «Слова сапраўднага лад» А. Сямёнавай, штогоднік «Вобраз-86».

Праўда, некаторыя з крытыка-біяграфічных нарысаў таксама будуюцца на матэрыяле, які не стаў яшчэ гісторыяй. Тым не менш бягучы літаратурны працэс, жывая плынь жыцця, сучасныя праблемы і супярэчнасці, адлюстраваныя ў мастацкім творы, вывучаюцца яшчэ нашымі крытыкамі недастаткова актыўна.

З мэтаю мець больш пэўнае ўяўленне, як рэагуе бягучая крытыка на запатрабаванні часу, як ідзе яе перабудова, мы правялі невялікае сацыялагічнае даследаванне: прааналізавалі найболей аператыўную жанравую форму крытыкі — рэцэнзіі, змешчаныя ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Нёман» за першае паўгоддзе 1986 года, а затым — за другую палову года. І вось што засведчыла статыстыка. Пад рубрыкамі «Сярод кніг», «Кнігі і час», «Книжное обозрение», «Коротко о книгах» у студзені змешчана 59 рэцэнзій, з іх на мастацкія творы 37. Практычна ўсе рэцэнзіі — станоўчыя, прычым пераважная большасць—без адзінай крытычнай заўвагі. У некаторых, праўда, пракідваліся крытычныя інтанацыі, але вельмі нясмелыя, ды і то галоўным чынам у адрас аўтараў даследчых прац.

У водгуках жа на мастацкія творы панавалі эпітэты вышэйшай ступені.

Другая палова года дала крыху іншы малюнак. Сярод 53-х рэцэнзій (37 — на мастацкія жанры, 16 — на гісторыка-літаратурныя, грамадска-палітычныя кнігі) ёсць ужо водгукі, якія да ліку кампліментарных не аднясеш. Замест нястрымнага захвальвання мы бачым памкненне крытыкаў аб'ектыўна разабрацца ў вартасцях і недахопах твора. Такую вось аб'ектыўнасць, прынцыповасць погляду выявілі М. Арочка, разглядаючы кнігу вершаў «Метраном» В. Коўтун («Полымя», 1986, № 8), Л. Савік у рэцэнзіі на кнігу У. Саламахі «Заўтра ў дарогу» (там жа, № 7), Г. Напрэеў пры аналізе кнігі журналіста-гісторыка М. Тараткевіча «Такой і павінна быць легенда» («Нёман», 1986, № 8), Л. Філімонава, рэцэнзуючы зборнік У. Арлова «Добры дзень, мая Шыпшына» (там жа, № 9), Ф. Яфімаў у водгуку на зборнік вершаў В. Жуковіча «Цана цішыні» (там жа, № 10).

Неабходна адзначыць, што, напрыклад, М. Арочка высока ацэньвае «Суд Алаізы», але менш удалай лічыць паэму «Выйду з сэрцам». Крытык не абмяжоўваецца агульным, дэкларацыйным сцвярджэннем, а даводзіць сваю думку аналізам твора, яго вобразнага ладу.

Л. Савік таксама адкрыта гаворыць пра недахопы, уласцівыя маладому пісьменніку, пра невыразнасць аўтарскіх адносін да героя.

«Звярнуць бы больш увагі на псіхалогію, на паводзіны блакаднікаў у экстрэмальнай абстаноўцы — думаецца, ад гэтага апавяданне не толькі выйграла б, але і многае б дало чытачу, які прывык у дакументальнай літаратуры шукаць не толькі факты, але і глыбокае ідэйна-псіхалагічнае асэнсаванне ўсёй праўды цяжкіх дзён мінулай вайны»,— такія слушныя меркаванні выказвае Г. Напрэеў пра кнігу М. Тараткевіча.

Прыхільна паставіўшыся да маладога празаіка У. Арлова, адзначаючы многія бясспрэчныя вартасці яго твораў, Л. Філімонава гаворыць і пра недастатковую псіхалагічную абгрунтаванасць паводзін яго герояў, пра схематызм і элементы другаснасці ў апавяданнях пісьменніка. «Ключавы момант апавядання, калі гераіня, убачыўшы вочы Кастуся, вырашыла не пакідаць яго аднаго, усё-такі псіхалагічна не выпісаны. Адкуль у яе, амаль дзяўчынкі, а тым болей, што яна аказалася ў цяжкай жыццёвай сітуацыі,— такая мудрасць, такое альтруістычнае каханне да бліжняга, разуменне, болей уласцівае людзям, умудроным гадамі і вопытам».

Ф. Яфімаў ставіў перад сабой мэту не толькі даць агульную ацэнку вершаў В. Жуковіча, але і разабрацца ў сутнасці ўдач і няўдач паэта. Крытык адзначыў, што В. Жуковіча «захлiствае драбнатэм'е», што ён неашчадна карыстаецца словам.

Як бачым, у галіне бягучага рэцэнзавання ёсць абнадзейваючыя сімптомы.

І ўсё ж калі мець на ўвазе не паасобныя ўдалыя выступленні, не паасобныя рэцэнзіі, а стан, узровень крытычнай думкі ў цэлым, калі памятаць, чаго ад крытычнай службы сёння чакае грамадства, памятаць пра ролю крытыкі як фактару актывізацыі літаратурнага працэсу, ролю ў фарміраванні грамадскай, нацыянальнай свядомасці, яе дзейнасць як пасрэдніка паміж майстрамі слова і чытачом, дык да размоў пра зрухі і поспехі трэба пакуль што ўстрымацца. Устрымацца таму, што ў дзейнасці крытычнага цэха яшчэ шмат вузкіх месц, шмат нявырашаных пытанняў.

Сказанае датычыць таксама і таго ж рэцэнзавання, хоць гэта, вядома, і не ўся крытыка, але яна надзвычай блізкая жывой літаратурнай практыцы. У рэцэнзаванні якраз і выяўляюцца з асаблівай выразнасцю некаторыя пачаткі, родавыя, як кажуць вучоныя, канстытуцыйныя адзнакі літаратурнай крытыкі. Зрэшты, і ў вачах пісьменніка і ва ўяўленні чытача крытык — гэта перш за ўсё той, хто выступае з рэцэнзіямі, хто бярэ на сябе смеласць першым сказаць слова пра новы твор, даць яму ацэнку.

Ужо стала агульным месцам сцвярджэнне аб слабым уплыве крытыкі на літаратурны працэс, на творчую практыку. Але чаму ўсё-такі гэты ўплыў неэфектыўны? Адну з прычын такой з'явы, на наш погляд, трэба бачыць у застыласці форм і сродкаў арганізацыі літаратурна-крытычнай службы, у тым, што формы, выпрацаваныя шмат гадоў назад не абнаўляюцца. У крытычнай практыцы пануе стэрэатып, разбурыць які не так і лёгка, бо гэтаму перашкаджае боязь новага, нежаданне браць на сябе адказнасць, калі новае не адразу дасць станоўчыя вынікі, перашкаджае кансерватызм мыслення, сіла інерцыі і іншыя, вельмі празаічныя фактары. Канкрэтызуем сказанае, паглядзім, як гэта выглядае на практыцы.

Калі ў часопісе з'явіцца новы твор або выйдзе асобнае выданне, дык органы друку ў ідэале імкнуцца даць яму пэўную ацэнку. І мы, крытыкі, увесь час выказваем пажаданне, каб кола твораў, якія рэцэнзуюцца, было шырэйшым, каб у арбіту публічнай ацэнкі траплялі і першыя часопісныя, газетныя публікацыі, і творы пачаткоўцаў. Радуемся, калі газета ці часопіс праяўляюць аператыўнасць. І ў гэтым зусім зразумелым і гуманным па сваёй сутнасці імкненні да шырыні ахопу твораў, якія павінны стаць аб'ектам прафесійнага разгляду, мы, аднак, не ўлічваем вельмі істотнага моманту, а іменна таго, як рэцэнзія ўспрынята тымі, каму яна адрасавана, ці дайшла яна да свядомасці чытача, ці зразумеў ён намеры крытыка-рэцэнзента? З другога боку, не менш важна, ці справіўся рэцэнзент са сваёй нялёгкай задачай? Ці здолеў ён адчуць у творы галоўнае, істотнае — ці раскрыў яго пафас, яго адметнасць?

На гэтыя пытанні, калі мець на ўвазе практыку сучаснага рэцэнзавання, немагчыма атрымаць пэўны адказ. І сапраўды, ні рэцэнзент, ні супрацоўнікі рэдакцыі, ні пісьменнік фактычна не ведаюць, якое ўражанне на чытача зрабіла рэцэнзія — ці здолела яна зацікавіць яго новым творам ці, наадварот, адбіла ў яго ахвоту брацца ў рукі гэты твор. Адзінае, што можна дакладна ўстанавіць, дык гэта рэакцыю аўтара твора: станоўчы водгук выклікае прыхільныя адносіны да рэцэнзента, калі ж ацэнка крытычная, дык тут многае залежыць ад культуры пісьменніка, яго тэмпераменту і г. д.

Падыдзем, аднак, да гэтага пытання і з іншага боку. Няўжо адзіны водгук у газеце, часопісе і сапраўды можа адразу раскрыць глыбінны сэнс твора? Няўжо аўтар водгуку, у тым ліку і аўтар не вельмі кваліфікаванага, павярхоўнага, зробленага паспешліва, і ёсць вышэйшы суддзя, прысуд якога аб'ектыўны, справядлівы, канчатковы?

Можна запярэчыць: у крытыкаў, маўляў, ёсць магчымасць з цягам часу вярнуцца да ацэнкі твора, паглыбіць, удакладніць першапачатковыя меркаванні, і свае, і чужыя, адкінуць памылковае — у аглядных артыкулах, у літаратуразнаўчых працах. Але будзем глядзець праўдзе ў вочы: ад запозненых водгукаў ні пісьменніку, ні чытачу, як кажуць, ні холадна, ні горача. Для іх куды большую вартасць мае слова, сказанае ў час, па гарачых слядах, калі твор толькі з'явіўся і выбар чытача нярэдка залежыць ад меркаванняў аўтарытэтнага крытыка. Акадэмічныя ж, вывераныя, узважаныя характарыстыкі маюць пераважна навуковае значэнне.

Апрача таго, неабходна мець на ўвазе і вось які момант. Суб'ектывісцкая, павярхоўная, несправядлівая ацэнка, дадзеная крытыкамі, які кіраваўся кан'юнктурнымі, групавымі і іншымі, далёкімі ад народных інтарэсаў меркаваннямі, трывала замацоўваецца ў свядомасці чытачоў, становіцца як бы агульнапрызнанай, і, каб абвергнуць гэту ацэнку, патрэбна нямала часу і творчых намаганняў. Яскравы прыклад — ацэнка першай рэдакцыі «Мінскага напрамку» І. Мележа. Хоць раману і былі ўласцівы істотныя недахопы, але нельга было не бачыць і яго вялікіх патэнцыяльных вартасцей, пра якія крытыка своечасова не сказала аўтару. Гэтая дэзарыентацыя дорага каштавала раманісту.

Міжвольна напрошваецца вывад: **у практыцы бягучага рэцэнзавання павінна стаць нормай становішча, калі на адзін і той жа твор рэдакцыя газеты, часопіса — услед за першай рэцэнзіяй — змяшчае іншыя водгукі.** Водгукі крытыкаў-прафесіяналаў і водгукі чытачоў. Пры гэтым важна, каб яны не існавалі ізалявана, незалежна адзін ад другога, а былі па сутнасці формай дыялога, своеасаблівым працягам, удакладненнем думак папярэдніка або, наадварот, каб тут выяўлялася нязгода, мела месца палеміка, спрэчкі, абгрунтаванне зусім іншага пункту гледжання. Вось гэта і будзе **адным з канкрэтных праяўленняў рэальнай дэмакратызацыі літаратурна-грамадскага жыцця**, пра што мы сёння шмат гаворым і пішам. Але ад слушных прапаноў, ад прыгожых, гучных слоў пара пераходзіць да справы, як кажуць, настаў

**(Заканчэнне на стар. 6).**

працоўнае, фізічнае і эстэтычнае выхаванне. Педагагічная мудрасць народа з'яўлялася невычарпальнай крыніцай развіцця прагрэсіўнай педагагічнай думкі і ў наступныя гістарычныя перыяды. Гэта выразна бачна пры супастаўленні педагагічных твораў відных прадстаўнікоў грамадскай думкі Беларусі з фальклорнымі крыніцамі. З вялікай цікавасцю чытач азнаёміцца з матэрыяламі перыяду распаўсюджання ў Беларусі рэфармацыйна-гуманістычных ідэй у грамадскай, у тым ліку і педагагічнай думцы. У гэты складаны перыяд сваёй гісторыі беларускі народ вёў барацьбу супраць іншаземнага панавання і каталіцкай экспансіі, за захаванне і развіццё сваёй нацыянальнай культуры. І паказальна, як бачна з матэрыялаў кнігі, што позіркі народа, яго імкненні былі накіраваны на ўсход, у бок Масквы. У творах выдатных беларускіх асветнікаў-гуманістаў М. Гусоўскага, Л. Зізанія, Ф. Скарыны, С. Буднага і другіх — гэтая духоўная блізкасць двух братніх народаў у іх мовах і культуры, традыцыях і фальклоры, у педагагічных поглядах выступае як натуральная, якая сама сабой разумеецца.

У кнізе гэтая блізкасць беларускага і рускага народаў выяўляецца ў антыкаталіцкіх, антыпанскіх матывах твораў беларускага фальклору, з аднаго боку, у яго блізкасці па зместу з рускім фальклорам — з другога.

Разам з тым у вуснай народнай творчасці ярка праяўляецца і класавы характар выхавання. Тут ужо асноўнымі з'яўляюцца сацыяльныя, антыпрыгонніцкія матывы.

У кнізе паказаны ўплыў вызваленчых ідэй народнай педагогікі на педагагічныя погляды беларускіх асветнікаў XVIII стагоддзя (П. Парамовіча, І. Храптовіча, І. Яленскага і інш.), якія выступілі ў сваіх педагагічных працах за распаўсюджанне асветы ў народных масах, ліквідацыю саслоўных прывілей на адукацыю.

Грунтоўна пададзены ў анталогіі асаблівасці развіцця педагагічнай думкі пасля ўз'яднання Беларусі з Расіяй. Старанна адабраныя тэксты, урыўкі з педагагічных прац з дастатковай паўнатой паказваюць чытачу асноўныя працэсы ў яе развіцці. Гэта ўзнікненне і развіццё руху — спачатку сярод інтэлігенцыі, затым у гушчы народных мас — за навучанне на роднай мове.

Як бачна з матэрыялаў кнігі, асабліва шырокія маштабы, сапраўды ўсенародны характар набывае барацьба за дэмакратызацыю народнай асветы на рубяжы XIX—XX стагоддзяў, калі на чале вызваленчага руху становіцца пралетарыят, яго марксісцка-ленінская партыя. Добра, што ў анталогіі прадстаўлены не толькі працы выдатных педагогаў-вучоных, але і выступленні па пытаннях народнай асветы настаўнікаў, прадстаўнікоў грамадскасці. Гэтыя матэрыялы публікуюцца практычна ўпершыню. Яны асвятляюць вастрыню палітычнай барацьбы вакол праблем народнай асветы, якая (асабліва ў гады першай рускай рэвалюцыі і ў наступны перыяд) была часткай барацьбы за звяржэнне самадзяржаўя.

Вялікая работа праведзена складальнікамі анталогіі па вывучэнні і сістэматызацыі педагагічнай спадчыны савецкага перыяду. У кнізе змешчаны багаты матэрыял аб станаўленні і развіцці беларускай савецкай школы ў першыя дзесяцігоддзі Савецкай улады. Працы гэтага перыяду арганічна звязаны з публікацыямі перадрэвалюцыйных дзесяцігоддзяў. Яны паказваюць, як ажыццяўлялася ленінская праграма перабудовы школы, якія складаныя тэарэтычныя і практычныя праблемы патрэбна было вырашаць маладой савецкай педагагічнай навуцы і органам народнай асветы.

Змешчаныя ў Анталогіі матэрыялы адлюстроўваюць працэс станаўлення і развіцця беларускай педагагічнай навукі.

Анталогія адкрываецца зваротам да чытачоў народнага пісьменніка Беларусі акадэміка Кандрата Крапівы і ўступным нарысам, у якіх даецца невялікі, але грунтоўны агульны агляд гісторыі педагагічнай думкі Беларусі. Несумненна каштоўнымі з'яўляюцца каментарыі да тэкстаў, асабліва дарэвалюцыйнага перыяду.

Прыкра, што ў такой навукова каштоўнай, выдадзенай на добрым паліграфічным узроўні кнізе дапушчана тэхнічная недакладнасць пры ілюстраванні: пераблытаны фотаздымкі У. І. Пічэты і Б. А. Тарашкевіча.

Не ўся каштоўная педагагічная спадчына беларускага народа прадстаўлена ў кнізе. У прыватнасці, Анталогія не дае матэрыялаў развіцця педагагічнай думкі апошніх дзесяцігоддзяў. Але тым не менш кніга з'яўляецца значным крокам у даследаванні гісторыі педагагічнай думкі Беларусі.

цыклапедычных ведаў, вялікага літаратурнага таленту.

Вядомы наш лацініст Я. Парэцкі ўпершыню пераклаў на рускую мову «Сентэнцыі» Яна Ліцінія Намыслоўскага. Які гэта скарб мудрасці, філасофскага асэнсавання чалавека ў грамадстве, яго духоўнага свету! І ўсё гэта выказана ў афарыстычнай форме—сцісла, глыбока, мудра. Так, што сентэнцыі самі кладуцца на памяць. Можна пашкадаваць, што гэта крыніца мудрасці невядома шырокаму беларускаму чытачу. У Анталогіі надрукавана каля ста афарызмаў. Вось толькі два ў маім недасканалым перакладзе з рускай мовы: «Шчодрым не будзь, памагаючы людзям хлуслівым. Недруг, дарункі твае атрымаўшы, робіцца больш яшчэ наглы!»; «Больш за ўсё шкодзіць сабе балбатун несціханы. Лепш бы яму памаўчаць хоць якую хвіліну».

На добрым навуковым узроўні падрыхтавалі публікацыі Г. Галенчанка, Э. Дарашэвіч, А. Мальдзіс, У. Конан, А. Ліс, А. Жураўскі, В. Шалькевіч і некаторыя іншыя нашы філосафы, мовазнаўцы, літаратуразнаўцы.

Але, на жаль, не абышлося без славутай лыжкі дзёгцю. Зрэшты, тут лыжкай не абыдзешся. Каб выправіць усе агрэхі, хібы, недакладнасці, скажэнні, чытач павінен узяць на сябе многа абавязкаў: зверыць тэксты па першакрыніцах, выправіць непісьменныя пераклады, граматычныя памылкі, даты. Адным словам, быць рэдактарам, стылістам, перакладчыкам, карэктарам.

З самага пачатку не быў вызначаны сам прынцып адбору матэрыялу. Нельга разумець педагогіку як навуку без межаў і берагоў. Іншыя матэрыялы трапілі ў Анталогію толькі таму, што ў іх ёсць словы «настаўнік» або «школа». Ці быў Янка Купала педагогам? Быў, як і кожны вялікі паэт. Але хіба пра педагогіку ён піша, калі з горкай іроніяй расказвае вуснамі селяніна пра яго бяспраўнае жыццё, поўнае пакут, уціску і здзеку. «І нашто школа з настаўнікам,—добра быць і неахайнікам: калі з кніжкі не даўчуся, — у астрозе далаўчуся. Эх ты, доля мая, маю школу ўжо я!». У той жа час у кнігу чамусьці не трапіў артыкул Я. Купалы, які мае самае непасрэднае дачыненне да педагогікі,—«Ці маем мы права выракацца роднай мовы».

Яшчэ пра прынцып публікацый. У кнізе надрукаваны пяць нумароў «Мужыцкай праўды» К. Каліноўскага. Рускі чытач будзе мець прыемную магчымасць пазнаёміцца з палымяным словам ворага самадзяржаўя, выдатнага сына беларускага народа. Кожнае слова «Мужыцкай праўды» напоўнена вялікім пачуццём, болем за народ, гневам і нянавісцю да ўціску. Гэта адна з выдатных старонак беларускай журналістыкі. Аднак незразумела, чаму «Мужыцкая праўда» трапіла ў Анталогію педагагічнай думкі. Абмяжоўваць праблематыку першай рэвалюцыйна-дэмакратычнай нелегальнай беларускай газеты педагагічнымі ідэямі па меншай меры нелагічна.

Толькі таму, што твор прызначаны дзецям, у Анталогіі надрукаваны фрагмент казкі М. Багдановіча «Мушка-зелянушка і камарык—насаты тварык». У той жа час з артыкула М. Багдановіча пра навучанне дзяцей беларускай мове ў бежанскім прытулку ў Анталогію трапіла толькі дзевяць радкоў.

І так здараецца не раз. Як толькі заходзіць гаворка пра беларускую мову, дык ставіцца шматкроп'е. Усе даведнікі і падручнікі называюць У. Сыракомлю польскім і беларускім паэтам, Анталогія прызнае яго толькі польскім. Сымон Будны перахрышчаны на Сімона. У звароце І. Мележа да вучняў Гудзевіцкай школы не хапіла месца літаральна для чатырох радкоў, у якіх ён дае наказ «любіць і вывучаць родную беларускую мову». Не думаю, што гаворка павінна ісці пра нейкую тэндэнцыю, хутчэй пра недагляд.

Асабліва глыбокае ўмяшанне зроблена ў тэксты Я. Коласа. З розных мясцін яго «Методыкі роднае мовы» навыскубаны ўрыўкі і адвольна аб'яднаны Чытаеш і думаеш, як нелагічна, пераскокваючы з тэмы на тэму, разважае аўтар.

Між тым многія назіранні, вывады і парады Я. Коласа актуальна гучаць і ў нашы дні. Былі б куды больш дасканалыя нашы падручнікі, праграмы і метадычныя дапаможнікі, калі б іх аўтары паслухаліся Я. Коласа. Ён крытыкаваў старую школу за тое, што яна «адкідала мову дзяцей, а падносіла сваю, штучна дастасаваную, кніжную мову падручнікаў». Нібы сёння сказана: «Падробнае выпытванне зместу твора, дэтальны аналіз яго плану, падрабязныя аб'ясненні, у поўнай меры адпаведныя для артыкулаў дзелавых, зусім трацяць свой сэнс тады, калі яны прыкладаюцца да мастацкіх твораў». Я. Колас пісаў, што матэрыял падручнікаў «не павінен даваць дзецям гатовага вываду», раіў, каб для чытання браліся «цэлыя творы, а не ўрыўкі». Нічога з гэтых вельмі важных думак народнага паэта ў Анталогію не трапіла.

Заўважаецца дыспрапорцыя ў падачы матэрыялу. Даволі вялікае месца адведзена таленавітаму педагогу Ф. Кудрынскаму, а яго не менш таленавітаму вучню, выдатнаму паэту і педагогу Я. Коласу — у два разы меншае.

Многа нараканняў выклікае раздзел «Народная педагогіка». У ім вельмі скупа пададзены адзін з самых багатых жанраў беларускага фальклору—прыказкі і прымаўкі. Да таго ж, сярод іх мала самабытных. Але нават тыя, што трапілі ў кнігу, набылі непазнавальны выгляд і страцілі адзнакі афарыстычнасці і паэтычнай арганізаванасці: «Нет таких лавок, где покупают родных маток». Трапляюцца і псеўдапрыказкі, якія не маюць нічога агульнага з фальклорным жанрам: «Сказки воспитывают детей». Гэта хутчэй фраза з трактата пачынаючага навукоўца. Невядома, каму адрасавана першая частка фразы: «Учи народ, учись и у народа». Не ўсім народ дае права вучыць яго.

Раздзел «Народная педагогика» наогул лепш было б даць у канцы Анталогіі, а не ў пачатку. Прычым куды шырэй, не абмяжоўваючыся толькі афарыстычнымі фальклорнымі жанрамі, песнямі і казкамі. А чаму б не даць месца мастацкім творам, якія грунтуюцца на народнай педагогіцы? Тут можна, доўга не думаючы, назваць апавяданне-прытчу І. Шамякіна «Матчыны рукі» або раздзел «Людзі зямлі беларускай» з кнігі У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». І такіх твораў у беларускай літаратуры многа.

Пры падрыхтоўцы Анталогіі былі занядбаны элементарныя правілы навуковых публікацый. Пра адвольныя скарачэнні і недазволенае ўмяшанне ў тэкст я гаварыў. Але гэта яшчэ не самае горшае. У кнізе не-не ды сустракаюцца звычайныя неахайнасць і абыякавасць. У артыкуле «Выхаванне пачуццяў» Р. Шырма вядзе гаворку пра школьную самадзейнасць. І раптам ні з сяго ні з таго пачынае крытыкаваць мяшчанства. Укладальнік механічна аб'яднаў два розныя артыкулы. У артыкуле «Ціхая трагедыя» пісьмо сялян вёскі Кожава пану-міністру асветы прыпісваецца Р. Шырму. Згубілася двукоссе. Анталогія запэўнівае, што артыкул І. Мележа «Настаўнік, выхаванне, школа» надрукаваны на стар. 289 кнігі «Жыццёвыя клопаты», а там яго няма. Дый сама гэта кніга выдадзена не ў 1980, а ў 1975 годзе.

Ахвотнікі збіраць перакладчыцкія кур'ёзы знойдуць у Анталогіі багатую спажыву. Асабліва іх многа ў раздзеле, падрыхтаваным і перакладзеным П. Сонцавым. Слова «анталогія» азначае па-грэчаску букет кветак. Тут сапраўды чытачу прапануецца букет, толькі не кветак. Неяк няёмка нагадваць вучонаму правілы, якія павінны ведаць вучні пачатковай школы, а даводзіцца. У назве Беларускі дзяржаўны універсітэт першае слова пішацца з вялікай літары. У родным склоне—не Свіцязя, а Свіцязі, не Сожы, а Сажа, «жывое жыццё» не тое самае, што «новая жизнь». Гістарызм «старшына» (воласці) перакладчык перадае словам «председатель». Перакладчык павінен узяць на сябе грэх за непісьменную фразу: вучань спрабуе сам выказаць «**итог** передуманного и пережитого, как бы **они** ни были еще незрелыми» (Падкрэслена мною.—**Р. Ш.**).

У артыкуле «Аб народным вучыцелю» Я. Колас з горкім болем пісаў пра тых настаўнікаў, якія не вытрымалі цяжкіх выпрабаванняў, чыя «галава нізка клоніцца перад цэшкаю станавога прыстава». Перакладчык прыдумаў для прыстава даволі арыгінальны ўбор. Можна падумаць, што ён насіў нейкую адмысловую шапку, прачытаўшы: «чья голова склонилась перед палкою станового пристава». Цяпер, калі вы прачытаеце ў таго ж Я. Коласа «Алесь браў стрэльбу, шапку з цэшкай і нёс з шчаслівую ўсмешкай», адразу пераходзьце на мову перакладчыка і думайце, што бралі шапку з палкай. Я. Колас з гневам пісаў, што над настаўнікам пастаўлена многа рознага начальства, якое «лічыць сваім правам так ці іначай скубянуць вучыцеля». Пераклад: «считает своим правом так или иначе царапнуть учителя». П. Сонцаў чамусьці пераклаў і ліст Я. Коласа да А. Харкевіч, напісаны ...па руску.

Трохі пра тое, чаго няма ў Анталогіі, але павінна абавязкова быць.

Уступны артыкул называе прозвішчы педагогаў, працы якіх не зрабілі больш-менш прыкметнага ўплыву на педагагічную думку, а цяпер і зусім забытыя. У той жа час многія не згадваюцца. Асобна трэба было сказаць пра А. Клышку. Ён не толькі напісаў адзін з лепшых у краіне буквароў, але і даследаваў гісторыю беларускага буквара, расказаў пра педагагічныя прыцыпы, якімі кіраваўся ў працы над ім. Хіба ўсесаюзнаму чытачу не карысна было б даведацца пра гэта?

Што датычыць Я. Маўра, В. Віткі, Я. Брыля, то не грэх было б не толькі ўспомніць іх, але і адвесці старонкі Анталогіі для іх твораў.

Я. Маўр быў выдатным педагогам і тады, калі выкладаў у школе, і тады, калі стаў пісьменнікам. С. Маршак гаварыў на першым пісьменніцкім з'ездзе пра «ТВТ» як пра адно з лепшых дасягненняў дзіцячай літаратуры ў краіне.

Не трапіў у Анталогію В. Вітка. Вучоныя педагогі, мусіць, не ведаюць, што ўся яго творчасць для дзяцей грунтуецца на прынцыпах народнай педагогікі. Што, апроч выдатнай казкі «Вавёрчына гора», ён напісаў дзве кнігі пра выхаванне дзяцей у сям'і і ў школе: «Дзеці і мы» і «Урокі». Што першы ў рэспубліцы пачаў прапагандаваць ідэі В. Сухамлінскага. Прапагандаваць яшчэ тады, калі іх не толькі не прызнавала, але і ганьбіла афіцыйная педагогіка. Што ён не толькі захапляецца наватарскімі пошукамі і прынцыпамі В. Шаталава, але і робіць усё магчымае, каб укараніць іх у практыку беларускай школы.

Я. Брыль не стамляецца славіць два культы—культ маці і культ кнігі. Хіба гэта не педагогіка? Адна яго мініяцюра пра маці, якая, апрытомнеўшы ад цяжкай хваробы, найперш папытала ў сына, ці не галодны ён, магла б упрыгожыць старонкі Анталогіі. А ён жа напісаў многа такіх мініяцюр.

Уступны артыкул да Анталогіі аптымістычна заяўляе: «У 80-я гады педагагічная навука Беларусі ў сваім развіцці ўзнялася на якасна новы ўзровень». Але не шукайце ў Анталогіі старонак, якія маглі б пацвердзіць гэты аптымізм. Аўтары самі не ўпэўнены, што кажуць чыстую праўду, і далей губляюць аптымізм, залічаючы ў дасягненні не самі даследаванні, а «тэндэнцыю да ўзбуйнення тэматыкі».

Над падрыхтоўкай кнігі працаваў вялікі калектыў (34 чалавекі), занадта вялікі, нават маючы на ўвазе яе аб'ём—за трыццаць пяць друкаваных аркушаў. А яшчэ яе чыталі, кансультавалі, рэдагавалі, правілі дзве рэдкалегіі—маскоўская і беларуская. Як заўсёды бывае, калі на працу склікаецца цэлая грамада людзей розных густаў, эрудыцыі, падрыхтоўкі, цяжка дамагчыся, каб яны працавалі з аднолькавай аддачай, з аднолькавым пачуццём асабістай адказнасці. Талакою добра тушыць пажар або карчаваць лес. Навуковыя публікацыі рыхтаваць, наваліўшыся талакой, не трэба. Ад гэтага бываюць вялікія страты. Што і здарылася з гэтай Анталогіяй.

## ПАЭЗІЯ

**Мікола МАЛЯЎКА**



### *Малая радзіма*

Здалёк усміхніся вачыма,
Пакліч у дзяцінства здалёк,
Мой Нёман —
Малая радзіма,
Вялікай любові выток.

У студні глыбокай ля дому
Вада — як прычасця глыток,
Прагоніць і смагу, і стому
Зялёны бацькоўскі куток.

Магільны вянок распляцецца
І кветкамі стане вянок,
А сэрца шчасліва заб'ецца
Ад слова жывога: «Сынок!..»

Спачатку пачнецца дарога
Ад мілых бароў і заток,
Не хопіць ёй шара зямнога —
Пяройдзе ў касмічны віток.

Здалёк усміхніся вачыма,
Пакліч у дзяцінства здалёк,
Мой Нёман —
Малая радзіма,
Вялікай любові выток.

### *Акно*

Ад вёскі жыву не блізка,
Але заўважыў даўно:
Для мамы,
Як тэлевізар
З экранам шырокім, —
Акно.

На вуліцы пасвятлее —
І добра відаць
У акне,
Як вёска арэ і сее,
Як вёска косіць і жне.

Да ночы акно адкрыта,
І мама глядзіць на экран —
Галубіць вачамі жыта,
Далёкага лёну туман.

Туманяцца вочы ясныя.
Шкада, абяссіліў час —
І рукі,
Раней безадказныя,
Не падтрымаюць калгас.

Курэй пакарміць устане,
Вады прынясе —
І ў акне.
Чакае, калі на экране
Нарэшце ўбачыць мяне.

Заўсёды адна праграма,
Але дарагая яна —
І не прамяняе мама
На тэлевізар
Акна.

### *Як жыццё?..*

— Як жыццё?
— Нічога...

І чуў ад сябра маладога,
І сам адказваў так не раз.
Адценняў у пытання многа,
Ды адназначны ён, адказ.
Душа, здаецца, не затока
Без плыні—пачуцця жывога,
А не хвалюемся глыбока,
Калі бяда,
Калі трывога.
І радасць не праходзіць міма
Чужых акон,
Тваёго парога.
А мы, паціснуўшы плячыма,
Як прыбядняемся:
— Нічога...
Чаму так, людзі?
Знаю,
Можа
Адказ гучаць — як адкрыццё:
Натхняць і радаваць,
Трывожыць...

Я ў вас пытаю:
— Як жыццё?

●

Вясна — сляпая...
Марыць і смяецца.
Вясна не бачыць у прыродзе слёз.
Вясной і мы не думалі,
Здаецца,
Што ён аплачваецца,
Сок з бяроз.

Асенні час
Выстуджвае нябёсы,
Па ўсіх лясах прайшоў
Асенні час —
І заплацілі золатам бярозы
Зямлі за сок,
Якім паілі нас.

### *Бабіна лета*

Пад бярозамі дома
На світанні не спіцца —
І стаіш нерухома,
Зачараваны быццам.

Без хмурынкі нябёсы,
І на гэтым экране
Залатыя бярозы —
У блакітным тумане.

Цішыня затрапеча —
І ад подыху ласкі
Доўга падае ў вечнасць
Ліст, сарваўшыся з казкі.

А сабака забрэша —
Як на іншай планеце,
Дакацілася рэха
І згубілася недзе.

І стаіш нерухома,
Затаіўшы дыханне,
Пад бярозамі дома —
У блакітным тумане.

Уваскрэсну ад чараў
Немагчыма, здаецца,
Быццам выпаў ты з часу,
Хаця сэрца і б'ецца.

●

Даўным-даўно я, бясклапотны,
З дзяцінства выбег, як з двара,
Дзе і цяпер гарыць пяшчотна
Мая світальная зара.
У цень нябыту адыходзяць
Сябры-равеснікі,
Радня.
І той зары цьмянее водсвет
На шыбе сённяшняга дня.

Ці шмат гадоў яшчэ ў запасе?
Збірацца ў вырай — не пара,
Ды адчуваю:
Занялася
Мая вячэрняя зара.
Адсутныя чакаюць воддаль
Сябры-равеснікі,
Радня.
І той зары ярчэе водсвет
На шыбе сённяшняга дня.

Яшчэ адзін лісток
Апаў з календара.
Зара мая вячэрняя,
Журлівая зара...



**Мелодыя вясны.** Фотаэцюд А. ГЛІНСКАГА.

## ПРОЗА

**В**ЯРТАЮСЯ са школы. Адзін. Хлопцы ўжо разбегліся па хатах. Мне — ісці далей, ледзь не ў самы канец вуліцы. Сунуся памалу, нехаця, знарок спыняюся, пільна азіраюся вакол сябе. Нізкае, сівое неба маўкліва туліцца да сіратліва застылых садоў і адразу за хлявамі непрыкметна зліваецца з пакатымі, без ніводнай чорнай парушынкі пагоркамі, што падступаюць да самай вёскі. На рыжай, уезджанай дарозе — ні душы, і ад таго, мусіць, яна выдае чужою і няўтульнаю. Калючы пранізлівы вецер, што раптам ускідваецца ў твар і кусае за шчокі, пахне едкім гаркавым попелам, высыпаным у вышэй, на цёмна-бардовых дзвярах — цяжкі кулак замка...

Усё гэта бачу па некалькі разоў на дзень і ніяк не магу звыкнуцца, што то — не чужая, а мая хата. Якая яна самотная, пакінутая, колькі ў яе зафіраненых слепаватых вокнах болю, крыўды!

У горле казытліва расце гарачы, даўкі, што не скаўтнуць, камяк...

Суха звініць каля плота вецер, раптам узвейвае і церусіць шчодраю жменяю проста ў твар дробнае калючае сяйво. Я не адварочваюся і нават не заплюшчваю вачэй. Праз якое імгненне лёгка змахваю са шчок буйныя кроплі і пераконваю, запэўніваю сам



**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**




*АПАВЯДАННЕ*

агародчык. Хачу і не магу паверыць, што заўтра — вясна. Так пазначана ў календары. Не скажу, што вельмі зачакаўся гэтага вясёлага свята, і ўсё ж міжволі і нецярпліва шукаю яго першыя прыкметы. Дарэмна намагаюся — аніякага знаку. Праўда, сам дзень намнога пабольшаў: ужо не кіўнеш — зімовы дзянёк —што камаровы насок. Да палудня, нават і ў школе, прамільгне — не заўважыш, а паверне на вечар — не спяшаецца, як зусім нядаўна, складваць шэрыя крылы, а доўга сутоніцца, чэзне, быццам штось абяцае.

З сярэдзіны вуліцы пераходжу на вузкую — у адзін след — сцежку, вытаптаную проста па гурбах, што цяжка паўзуць уздоўж плота. Зіма сёлета не паскупілася на снег, і таму штыкеціны мне па калена. Так і падмывае пераступіць іх, прабегчыся пад чужымі вокнамі. Насупраць кожнай хаты марнеюць купкі дробнага вішняку. Каб размінуцца з ім, трэба згінацца або захіляцца рукою ад чэпкіх галінак. Я затрымліваю ў далоні адну галінку, і яна спачатку адзываецца востраю голкаю, а пасля нясмелым прыемным цяплом.

Мінаю яшчэ некалькі хат і, нарэшце, на тым баку вуліцы, бачу сваё котлішча. Найперш кідаецца ў вочы чорная, зацята-натапыраная груша: яна адна з усяго садку перад вокнамі не скарылася, не паддалася шэрай зімовай панурасці, не сцелецца, як яблыні, нізка да зямлі. Пасля выхопліваю позіркам расхрыстаныя насцеж весніцы, раскапаны ўчора сумёт, што асеў проста на камені каля парога, а сябе, што гэта ніякія не слёзы, а снегавая талая вада, што плакаць мне, шасцікласніку, брыдка...

●

Мама папрасіла мяне тады збегаць у магазін па свежы хлеб. Я мігам апрануўся, і праз якія паўгадзіны вярнуўся назад, аблеплены з ног да галавы снегам, але задаволены, што злётаў недарэмна, паспеў ухапіць тры мяккія духмяныя буханкі. Хіба ўцерпіш, каб не адламаць скарынку, не пасмакаваць яе яшчэ па дарозе?

У цеснай кухні і на чыстай палавіне хаты было ўключана святло. На слончыку каля печы ў малым чыгунку стаяла наабіраная для вячэры бульба. А самой маці не было; і я, упэўнены, што яна хутка рыпне дзвярыма ў сенцах, дастаў са школьнай сумкі кніжкі — надумаўся вучыць урокі. Па насценнаму старому гадзінніку, што строга міргаў жоўтым вокам маятніка праз шкло ў пазалочанай скрынцы, заўважыў: мінула паўгадзіны, як сяджу ўжо дома. Пачытаў яшчэ хвілін дваццаць — у галаву нічагуткі не лезла. Надта ж раз'юшана шастаў па сценах хаты парывісты вецер і звяглліва-нудна скавытала ў коміне печы. Тады мне захацелася, пакуль маці ходзіць-гаворыць па суседзях, самому згатаваць вячэру. Няхай парадуецца, што сын парупіўся. Адсунуў чытанне ўбок. Выграб з печы ў пагнутае вядро попел, накінуў на плечы ватоўку і выскачыў на двор. Як бачыш апынуўся каля плота, а ці вытрас што з вядра — не ведаю. Белае крыло завірухі падхапіла за плечы, крутнула ў адзін-другі бок, нібы спрабуючы адарваць

**ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ**

# Парадніўся з беларускай зямлёй

Студэнты факультэта бібліяграфіі і бібліятэказнаўства Мінскага інстытута культуры сустрэліся з азербайджанскім паэтам-франтавіком, празаікам і драматургам Гасанам Эльсеварам (Гасанам Мехці аглы Фатулаевым). Сустрэчу адкрыла дацэнт кафедры бібліятэказнаўства Н. Клімянкова.

Кароткае ўступнае слова пра творчы і жыццёвы лёс пісьменніка сказаў дацэнт кафедры літаратуры М. Няхай. Ён адзначыў, што Гасан Фатулаеў 12 лютага 1943 года добраахвотна, з пасады артыста Нахічэванскага драмтэатра, пайшоў у рады Савецкай Арміі, прымаў удзел у многіх баях, у тым ліку на беларускай зямлі. У баях пад Полацкам быў цяжка паранены. Ад палону і смерці яго выратавалі беларускія партызаны М. Махнач і яго сын Іван. Пасля вайны працягваў службу ў нашай рэспубліцы, пабраўся з дачкою М. Махнача. Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам, радыёжурналістам, цяпер —дырэктар Нахічэваньскай рэспубліканскай бібліятэкі імя Мамеда Ардубадзі. Аўтар шэрагу кніг паэзіі і прозы, а таксама п'ес, пастаўленых на тэатральных падмостках Азербайджана. Некаторыя з яго твораў прысвечаны Беларусі. Сярод іх—п'еса «Нескароная крэпасць», вершы «Ёсць у Мінску дом», «500-гадовы дуб», «Хатынь», «У Брэсце» і іншыя. Творы Гасана Эльсевара перакладалі на рускую мову Святлана Яўсеева і Дзіна Цярэшчанка, на беларускую Мікола Маляўка і Уладзімір Дзюба.

У час сустрэчы гучалі вершы Г. Эльсевара. У сваім выступленні азербайджанскі госць расказаў аб класіках азербайджанскай літаратуры, яе дасягненнях за апошнія дзесяцігоддзі, раскрыў гісторыю напісання сваіх апавяданняў «Браты», «Тынкоўшчык Аслан», «Лектар і старшыня калгаса» і іншых.

Гасан Эльсевар быў удзельнікам нядаўняга святкавання 30-годдзя часопіса «Вясёлка» ў Палацы прафсаюзаў, зрабіў падарожжа па мясцінах сваёй баявой маладосці.

**М. БЯРЭЗІНСКІ.**

ад зямлі, і праз імгненне злосна драпнула калючымі кіпцюрамі па лобе і шчоках. Яшчэ глыбей уцягнуў галаву ў плечы, пачаў памалу, бокам, церабіцца да збітага з дошак хлеўчука, дзе былі складзены дровы, а ў адным кутку ляжала горба брыкету. Дрывотнік чамусьці быў адчынены. На парог ужо намяло па калена снегу. Пашкадаваў, што не захапіў ліхтарыка, бо ўсярэдзіне, як у цёмнай яміне, нічога не бачыў. Тады выставіў перад сабой руку і падаўся навобмацак. Спачатку намерыўся накідаць у вядро брыкету. Трымаючыся за сцяну, павярнуўся ў патрэбны кут. Ішоў смела, бо ведаў: тут нічога не павінна замінаць. І раптам праз два-тры крокі за штосьці зачапіўся, ледзь не паляцеў на злом галавы. Асцярожна нагнуўся, каб памацаць, што там, і адхапіў, бы апёкся, руку, міжволі хіснуўся назад да дзвярэй.

У дывотніку хтосьці быў!

Раптоўна абмерла, зледзянела нутро, а ногі адабрала слабасць, гарачая мляўкасць. Думалася пра адно: хутчэй бы на двор, а там кумільгом у хату, дзе радасна слепіць святло. Аднак я прымусіў сябе спыніцца і спытаў дрыготкім, як усё роўна не сваім голасам:

«Хто тут?..»

У адказ — ні слова.

«Мама, гэта ты? — само вырвалася з грудзей і тут жа ледзяною вяроўкаю сціснула горла: — Т-ты чуеш мяне? Чаго ты сядзіш тут адна?..»

Ізноў — нядобрае маўчанне.

У твар патхнула смярдзючым духам брыкету — аж памуцілася ў галаве. Што далей было — не помню. Як апынуўся на каленях, таксама не ў памяці.

Маміна рука была цяжкая, нібы чужая. Ціхутка, з боязню, кратаў яе, лёгка патузваў да сябе, пяшчотна гладзіў халодныя, што ледзяшы, пальцы, а сам калаціўся ад нястрымных дрыжыкаў. І то шаптаў, то гаварыў уголас — словы знаходзіліся самыя — ласкавыя добрыя словы, якія толькі ведаў і чуў у свае трынаццаць год.

«Мамачка, падыміся! Тут холадна, ты прастудзішся... Няўжо не пазнаеш мяне? Гэта ж я, Валера... Любенькая, ну ўстань! Пайшлі дахаты. Я баюся...»

Маці не адзывалася. Нават не варухнулася — ляжала скурчаная, бокам, на горбе ўкамянелага брыкету. У вочы мне зеўрыла чорная жахлівая цемень, але я ўбачыў, сапраўды ўбачыў, што маме кепска ляжаць, што лепей павярнуць яе на спіну. Уціснуў ёй падпахі здранцвелыя далоні і надзіва лёгка зрабіў, што надумаўся. Тады адважыўся паспрабаваць падняць яе, але зразумеў: аднаму мне дахаты яе не прывесці. А яшчэ праз імгненне зверху горбы пасунуліся ўніз брыкеціны. Нехта пякучым холадам дыхнуў у патыліцу, штурхануў у спіну.

Упаў, як падкошаны, прытуліў да сябе маміну галаву, са з'ехаўшай на патыліцу хусткай, задыхнуўся ад роспачнага здушанага крыку:

«Мамачка, не памірай!..»

І захлынуўся гаручымі слязьмі, што даўно накіпелі, калолі ў вочы. Так, як тады, не помню, каб яшчэ калі плакаў ад ікаўкі пасля ледзь не выварочвала кішкі. Плакаў ад жудаснага страху, ад няведання, як далей быць, што рабіць, ад вострага жалю да самога сябе, ад крыўды на ўвесь белы свет. Раптам аднекуль выплыла, выразна паўстала, хоць бяры яе ў рукі, тая жахлівая фотакартка, якую доўга хавалі ад мяне. На ёй — у чорна-белай вузкай труне — мой бацька, які дзесяць год назад зляжыў маладую гарачую галаву ў нейкай далёкай Карэліі. Бацькаў твар мне зусім чужы, незнаёмы, але на белым строгім крыжы, прыхіленым да цаглянай сцяны, цвёрдымі друкаванымі літарамі выведзена: ЛІТВІНЧУК. Хіба можа быць што страшней?!




Гэта ж маё прозвішча, прозвішча мамы!..

І выратавальным гарачым дыханнем ледзь чутны (ці, можа, мне падалося?) мамін шэпт:

«Фельчара... дзеда...»

Падхопліваюся, нібы падкінуты тугою спружынаю, шапчу, захлёбваючыся словамі:

«Добра, мамачка, добра... Я на адной назе... Я мігам... Толькі ты пачакай, не...»

Не дагаварыў, як падавіўся. Паспеў заціснуць кулаком у сабе апошняе чорнае слова. Драўлянымі нагамі ступаю да цёмна-фіялетавай прасветліны выхада, сціснуўшы зубы, кідаюся насустрач шалёнай крутаверці. Хвіліну-другую яна віруе, кіпіць вакол мяне і паступова захлёбваецца ад бяссілля, асядае на губы мяккім пухам.

Я бег, я ляцеў, а навокала ўсё знерухомела. У нязвыкла пустой, як цэбар, галаве чырвоным маятнікам балюча цюкала ў скроні адно і тое слова: «Хутчэй! Хутчэй!..»

Дзед Павел якраз вярнуўся са службы, з пошты, нават не паспеў сцягнуць з плеч брызентавую на аўчыне куртку. Убачыў мяне — пра ўсё здагадаўся без слоў. Замітусіўся, кінуўся да кухоннага шкапчыка, спрабаваў і ніяк не мог выцягнуць шуфлядку, дзе трымаў усялякія лякарствы. Пасля абедзвюма рукамі, са злосцю, ірвануў яе да сябе. Усё, што мясцілася ўсярэдзіне шуфляды — паперкі рэцэптаў, парашкі, бляшанкі, белыя і чорныя бутэлечкі — сыпанула яму пад ногі, раз'ляцелася па ўсёй кухні. Марудна, няўклюдна нагнуўся, штосьці ўзяў у руку і падаўся без шапкі да дзвярэй. З чыстай палавіны хаты маўклівым ценем хіснулася ўслед баба Наталля, здагнала ў парозе, сама надзела яму на галаву шапку.

Спачатку мы беглі разам. Потым дзед павярнуў на наш надворак, а я, задыхаючыся, прыпусціў у другі канец вуліцы.

Фельчара Харкевіча заспеў у амбулаторыі. Ён стаяў у расшпіленым белым халаце пасярэдзіне цемнаватага калідора, выціраў аб жоўтую марлю вялізныя, што лапаты, далоні і рагатаў. Непадалёку ад яго, падмятаючы абы з рук падлогу, бліскала намасленымі вачыма мажная чарнявая маладзіца. Па тым, як яны замоўклі на паўслове, загадкава пасміхваліся адзін аднаму, я зразумеў — перашкодзіў.

«Што табе, хлопча?» — перастаў рагатаць, кінуў мне праз плячо фельчар.

Блытана, заікаючыся на кожным другім слове, расказаў, што кепска з маці, упала без памяці ў дрывотніку.

Харкевіч ураз спахмурнеў тварам, шпурнуў на крэсла марлю, схаваўся, нічога больш не спытаўшы, за дзвярыма прыёмнага пакоя. Кабета, шкадаўліва ўздыхнуўшы, утупілася ў падлогу; шоргат веніка ў яе руцэ зліўся з глухім шоргатам снегу за сценамі. Я зморана прываліўся да сцяны і з нянавісцю пазіраў на дзверы, за якімі схаваўся Харкевіч. Мне здавалася, што ён збіраецца як на вяселле, а не да хворага чалавека.

Нарэшце выпхнуўся ў доўгім, ніжэй каленяў, чырвоным кажуху з настаўленым загадзя каўняром. У руцэ трымаў зграбны дакторскі чамаданчык з кідкім белым крыжыкам на баку. Падміргнуў з ухмылкаю цыганаватай кабеціне, што ўсё яшчэ таўклася невядома чаго ў калідоры, сціснуў мяне за локаць — давай наперад. Перад тым, як тузануць да сябе ручку дзвярэй, я міжволі зябка сцепануў плячыма: над та моцна шкраблася, скуголіла на двары завіруха. Ізноў усплыў перад вачыма змрочны настылы дрывотнік, мільгануў чырвоны маятнік страху: «Хутчэй! Хутчэй!..»

Дзед і фельчар прынеслі на руках маму ў хату, паклалі на ложак, расшпілілі ватоўку, кофту. Я глядзеў на яе спалатнелы, без ніводнай крывінкі твар, на якім тырчэў, як завостраны, нос, бачыў запэцканыя ў карычневы брыкетны пыл маленькія рукі і думаў: як раней не заўважаў, што яна такая дробненькая, бы дзяўчо, стомленая, безабаронная.

Харкевіч доўга шукаў, слухаў пульс на яе руцэ, потым заспяшаўся, зрабіў адразу два ўколы, хуценька пачаў збіраць сваё начынне ў чамаданчык.

«Зараз жа трэба везці ў бальніцу... І чым хутчэй, тым лепш. Бо можна дачакацца горшага...»

Па маёй спіне паўзуць ледзяныя мурашкі.

Дзед, як рыба, плямкае тоўстымі губамі:

«Ключы ад пошты пры мне... Пайду выклічу...»

«Пакуль «хуткая» праб'ецца да нас... — абрывае, не дае яму дагаварыць Харкевіч і рэзка паварочваецца да мяне: — У агранома пад вокнамі стаіць «газік». Скажы, што я паслаў. І каб неадкладна...»

Падлога хіснулася, паплыла з-пад маіх ног. Я суцяшаю сябе, што на вуліцы стане лепш, і не хачу, баюся прызнацца самому сабе, што гатоў бегчы адсюль, з хаты, абы не бачыць абмерлую маму. Але хіба я ў тым вінаваты? Мне даўно хочацца закрычаць, каб усе пачулі: «Хіба я вінаваты?!» І крык мой, як камень у рэчку з усяго размаху. Чорная бяздонная вада, белая мігатлівая сцяна... «Чаму я такі нешчаслівы?»

Завуч нашай васьмігодкі Таісія Барысаўна, якая была жонкай агранома, сустрэла мяне ў сенях, завіхаючыся каля газавай пліты. На блакітнай кветцы агню сквірчыць патэльня. Вочы настаўніцы ўміг акругліліся ад здзіўлення, і я тут жа прачытаў у іх сарамлівую няёмкасць

Выдушваю з сябе, застыўшы на парозе:

«Скажыце, а... Мікалай... (Як жа яго па бацьку?!) дзядзька Коля дома?»

«Спачатку трэба прывітацца, Літвінчук! — зласліва падцінае ў адказ губы, знарок падкрэслена варочае на патэльні смажаніну Таісія Барысаўна. — За шэсць год вучобы можна навучыцца сябе паводзіць...»

Густы салодкі пах на момант закружыў галаву, а ў жываце, наадварот, непрыемна заныла.

«Мяне п-паслаў фельчар... М-маёй маме вельмі блага. Яе т-трэба адвезці ў бальніцу...» — страшэнна заікаючыся, выпаліў скорагаворкаю.

«Ты памыліўся, Валера, — голас яе памякчэў, — у нас няма дома тэлефона...»

«Харкевіч п-прасіў, каб... каб дзядзька Коля завёў маму ў Слонім, бо пакуль...»

«Ах вось што!»

Яе строгі настаўніцкі твар, быццам пад павелічальным шклом, раптам пачаў расці, набліжацца да мяне і расплывацца на чырвоныя плямы.

«Трэба выклікаць «хуткую». Тэлефон ёсць у калгасным праўленні, а муж мой яшчэ не вярнуўся дахаты з работы. Ты помніш, як выклікаць «хуткую»?»

Дыміць, рэжа ў вочы падгарэлая смажаніна. Каля вялікіх цёплых чаравікаў, скінутых насупраць дзвярэй у кухню, брудная вадою расцёкся снег. Пагрозліва рыпяць, плывуць, шырэй расхінаюцца прачыненыя дзверы. З праёма, упіраючыся галавою ў шапку вушака, свідруе мяне суровым позіркам той, пра каго я пытаўся. Скуласты, з пасечаным глыбокімі маршчынамі лобам і прыплюснутым носам, як усё роўна цалаваўся са сцяною... Прыкусіўшы да крыві ніжнюю губу, не адводжу вачэй, зацята маўчу.

Нецярпліва дрынчыць на пліце патэльня, блакітнымі паветранымі шарыкамі плывуць паміж намі словы:

«Валянцін, астыне вячэра... А гэта — Аленін, унук паштара нашага. Ты пазнаў? Прыбег машыну прасіць. Дык за сталом і выпрашыш...»

Для чаго патрэбна машына — сказаць забылася. Цвёрды мужчынскі рот крывіць сумная ўсмешка:

«Ваш вучань, Таісія Барысаўна?»

«У школе — усе мае вучні, але іхні клас я не вяду, у мяне і так хапае гадзін...»

Ён шырока ступае праз парог, не шкадуючы, як роўнага, ляпае мяне па спіне, быццам адсякае ад яе цяжкі пакутлівы горб:

«Пашанцавала табе, хлопча... А цяпер у двух словах яшчэ раз, што ў вас там сталася, а я тым часам абуюся...»

Не саромеючыся, змахваю рукавом з вачэй скупыя слёзы, спакойна, слова ў слова перадаю, што наказваў Харкевіч. Сіні едкі дым ад падгарэлага мяса пяршыць у горле, але я не збіваюся на заіканне. Парастак упэўненасці салодка казыча ў грудзях: хутка ад заікання застанецца хіба мянушка, бо яна калі прыліпае, дык ужо надоўга.

Машчуся поплеч агранома, і «газік» зрываецца з месца.

Яшчэ праз хвіліну мужчыны выносяць з хаты маму, захутаную, як дзіця, у некалькі радзюжак. Кладуць яе на задняе сядзенне, галавою на падушку, якую трымае на каленях Харкевіч. Дзед таксама шчэміцца паміж крэсел. Машына разварочваецца, намацваючы, нібы рукамі, сліпучым святлом дарогу...

Пасля — кароткае, трапяткое-трывожнае мігценне чырвоных агеньчыкаў, наўздагон ім белая парывістая хваля, што ледзь не збівае мяне з ног, і я застаюся адзін. Доўга не кратаюся з месца, гляджу агаломшаны ў той бок, куды нібы правалілася машына. Вокны хаты, што ледзь угадваюцца жаўтлявымі мутнымі плямамі, усё аддаляюцца і аддаляюцца ад мяне. «Трэба павыключаць, каб не гарэлі лямпачкі...» — прыйшла ў галаву цвярозая думка. Схапіўся за яе, як за выратавальную нітку, зрабіў некалькі крокаў у бок змрочнага непрытульнага надворка, і рэзка крутнуўся назад, на сярэдзіну дарогі:

«Няхай хоць усю ноч блішчыць святло, хоць цэлы тыдзень ці месяц, а я не буду выключаць яго, пакуль не вернецца з бальніцы мама!»

●

...Баба Наталля, напэўна, стамілася, чакаючы мяне са школы, а я ніяк не магу пераступіць нейкую нябачную мяжу, што трымае насупраць надворка. Пасля палудня, думаю сам сабе, найперш праб'ю шуфлем шырокую сцежку ад дарогі і да самага парога, пасля пастаўлю на месца весніцы. І абавязкова рассуну ўсе да адной фіранкі. Вось толькі як адвабіць нахабных галак, што так круцяцца каля коміна, з якога ўжо два тыдні не падымаецца дым? Снежкамі іх не адгоніш, не напалохаеш; а от каб пальнуць хоць раз са стрэльбы... «Ого, куды загнуў! — падкусіў самога сябе. — Ты з самапала спачатку паспрабуй...» На мой сорам, у мяне няма самапала. Ужо нават у некаторых малых смаркачоў ёсць, не кажучы пра старэйшых хлопцаў, а я ніяк не зраблю, не знайду патрэбнай трубкі. Ат, ліха з ім, самапалам! Ці не прасцей будзе прыцягнуць ад дзеда доўгую-доўгую драбіну, залезці на страху і пакласці на комін якую-небудзь сплеценую з дрота сетку?

Павярнуўся на хаду, каб прымерацца да вышыні, і знерухомеў, застыў з перахопленым ад здзіўлення дыханнем: хата пазірала на мяне мамінымі вачамі.

З ПОШТЫ «ЛіМА»

# А ТЭАТР ЗАВЕЦЦА КУПАЛАЎСКІМ

Апошнія гады ў купалаўскім тэатры, на жаль, зніжаецца культура сцэнічнай мовы. Сведчанняў таму можна знайсці шмат практычна ў кожным спектаклі. Лексічныя памылкі сустракаюцца проста жахліва; а тонкасці арфаэпіі, ужо не кажучы пра інтанацыйныя асаблівасці беларускай мовы, адступаюць на другі і трэці планы.

А зусім нядаўна я патрапіў на першакрасавіцкі капуснік, удзельнікамі якога былі пераважна маладыя акцёры-купалаўцы. Цудоўны, дарэчы, капуснік, які лішні раз пераканаў, што ў тэатры ёсць таленавітая моладзь. Праводзіўся ён па-руску, і добра было б, калі б за гэтым стаялі адно сцэнарны прыём, першакрасавіцкі жарт, адно павага да мовы Пушкіна і Талстога... Але ж найперш была за гэтым бачная ненатуральнасць акцёрскага існавання ў рамках беларускага мастацкага слова.

Разумею акцёраў — ім хочацца быць арганічнымі, раскаванымі. Ды толькі ці не даводзіцца за раптоўна набытую 1 красавіка натуральнасць плаціць незваротнымі стратамі ў беларускамоўнай гутарковай плыні? Зрэшты, першыя крокі ў гэтым напрамку зроблены былі даўно — калі ў купалаўскім тэатры пачалі зніжацца патрабаванні да моўнае «формы» акцёраў.

І каб жа адных акцёраў і рэжысёраў была ва ўсім гэтым віна! Здзіўляе, што тэатральная крытыка, кіраўніцтва БДТМІ амаль не зважаюць на сур'ёзную праблему і нічога не робяць дзеля паляпшэння становішча, падрыхтоўкі моладзі ў беларускамоўныя тэатры. У выніку некаторыя акцёры не ведаюць гісторыі, культуры, мовы роднага народа. Не ведаюць, скажам, таго, што асноваю першага тэатра пры двары цара Аляксея Міхайлавіча былі беларусы, што ніводзін славуты гастралёр не мог прыехаць з Еўропы ў расійскія сталіцы, абмінуўшы Шклоўскі тэатр графа Зорыча, што акцёры Слонімскага і Гродзенскага прыгонных тэатраў, падораныя каралю Станіславу Аўгусту, заклалі падмурак польскага балета і г. д. Не ведаюць выдатных твораў беларускай літаратуры і мастацтва, як сучасных, так і класічных — інакш кажучы, жывуць і ствараюць тэатральнае мастацтва, як гэта ні парадаксальна, ва ўмовах самаізаляцыі ад нацыянальнае культуры.

І вось шмат каго з гледачоў засмучае нізкая культура мовы ў калектыве. Ад яго чакаюць большае **прафесійнасці** ў моўных адносінах.

Не можа быць акцёра без непарыўнага і пераканаўчага зліцця вобраза і слова. Разбурэнне гэтага адзінства ў ролі не дазваляе дасягнуць сапраўднай творчай перамогі. Як ні сумна, але нашы рэжысёры і акцёры прайграюць рускім, літоўскім, грузінскім калегам, што жывуць і працуюць у натуральным для сябе моўным асяроддзі, думаюць на той мове, на якой іграюць.

Гэтыя радкі спачатку пісаліся не для друку. Я лічыў, што дастаткова будзе, каб з напісаным азнаёміліся акцёры тэатра. Але неўзабаве стала ясна, што праблема патрабуе шырэйшага абмеркавання, бо рэакцыя пэўнай часткі трупы на мой адкрыты ліст — збянтэжыла... Акадэмік Ліхачоў, выступаючы па ЦТ, заклікае зберагчы моўнае, фальклорнае багацце малых народаў, якія налічваюць сотні чалавек, — трэба паспець запісаць: знікаюць скарбы... А малады акцёр вядучага акадэмічнага тэатра дзесяцімільённай рэспублікі іншы раз пакутуе праз тое, што яму прыходзіцца іграць па-беларуску. Словам, прыходзіцца канстатаваць той сумны факт, што, здаецца, некаторыя купалаўцы не адчуваюць гонару за сваю прыналежнасць да першай нацыянальнай сцэны, да тэатра, які носіць імя генія беларускага народа.

**Алесь АСТАШОНАК.**

**АД РЭДАКЦЫІ. У сваёй заклапочанасці чысцінёй мовы, якая гучыць з падмосткаў Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, пісьменнік А. Асташонак далёка не адзіны. Пра гэта сведчыць і пошта штотыднёвіка. У прыватнасці, наш чытач з Гродна А. Ступень абураецца «моўным сурагатам», які перашкаджаў глядзець купалаўскія спектаклі «Верачка» і «Жудасныя бацькі».**

«ЛіМ» ВЫСТУПІЎ. ЯКІ ВЫНІК?

# «ЛЕС СЯКУЦЬ, ПАРК САДЗІЦЬ БУДУЦЬ»

**Артыкул пад такой назвай быў змешчаны ў «Літаратуры і мастацтве» за 12 і 19 верасня 1986 г.**

**Праз нейкі час (даволі значны) рэдакцыя атрымала адказы ад Мінскага гарвыканкома і Дзяржбуда БССР, у якіх рабіліся спробы ўхіліцца ад адказнасці за знішчэнне многіх кампанентаў гарадскога прыроднага асяроддзя. Было атрымана пісьмо і ад Дзяржкампрыроды БССР, дзе паведамлялася, што пытанні, узнятыя газетай, будуць абмеркаваны Камісіяй па ахове прыроды і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў Вярхоўнага Савета БССР.**

**У нумары «ЛіМа» за 5 снежня мінулага года быў змешчаны рэдакцыйны каментарый атрыманых газетай адказаў.**

**Нядаўна мы атрымалі яшчэ адно пісьмо з Дзяржкампрыроды БССР:**

**«Паведамляем, што пытанне «Аб стане аховы і выкарыстання лясоў зялёнай зоны горада Мінска» разгледжана на пасяджэнні Камісіі па ахове прыроды і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў Вярхоўнага Савета БССР. Камісіяй адзначана: стан лясоў зялёнай зоны па-ранейшаму не адпавядае патрабаванням, якія да яе прад'яўляюцца. Прыняты да ведама заявы першага намесніка старшыні Мінскага аблвыканкома А. Жука і намесніка старшыні Мінскага гарвыканкома Г. Сянкевіча, што выканкомамі будуць прыняты неабходныя меры па ліквідацыі існуючых недахопаў у ахове і выкарыстанні лясоў зялёнай зоны г. Мінска. Выканкомам даручана паведаміць аб ходзе выканання рашэння камісіі да 1 ліпеня 1987 года.**

**Дзяржаўны камітэт БССР па ахове прыроды адпаведна з планам работы на 1987 год праверыць стан зялёнай зоны г. Мінска, а таксама шэрагу іншых гарадоў у маі—ліпені 1987 года.**

**Старшыня Дзяржкампрыроды БССР В. Казлоў».**

ТЭАТРАЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

*Абмяркоўваем праект Статута СТД БССР*

# ТРЭБА ЯШЧЭ ПАДУМАЦЬ...

**Статут СТД БССР—гэта вельмі важны і адказны дакумент, якім мы павінны кіравацца ў нашай штодзённай практыцы. А гэта значыць, што ён павінен быць гранічна ясным і дакладным у вызначэнні мэт, правоў і абавязкаў як яго кіруючых органаў, так і кожнага яго члена.**

**Азнаёміўшыся з праектам Статута з гэтага пункту гледжання, я хачу зрабіць некалькі заўваг і пажаданняў.**

**Было б лагічным і важным у першым раздзеле Статута — «Мэты і задачы Саюза» (§ 1—1) перш за ўсё выразна сфармуляваць думку аб высокім прызначэнні тэатра, закліканага служыць народу, тэатра як школы жыцця, школы ідэйна-эстэтычнага выхавання савецкіх людзей.**

**У першым раздзеле (§ 1—2) парушаецца логіка. Чамусьці спачатку гаворыцца пра тое, што «саюз прымае ўдзел у супрацоўніцтве з тэатральнымі арганізацыямі і дзеячамі тэатра замежных краін». І толькі ніжэй—пра тое, што саюз «вядзе сваю работу ў цесным узаемадзеянні з тэатральнымі саюзамі братніх рэспублік СССР». Трэба было б гэтыя пазіцыі памяняць месцамі.**

**У § 1—4 гэтага раздзела сказана: «Саюз тэатральных дзеячаў БССР у выпадку неабгрунтаваных ці некампетэнтных рашэнняў у галіне тэатральнай справы прыпыняе іх ажыццяўленне адпаведна з існуючым заканадаўствам». У другім раздзеле (§ 7) гэты тэзіс паўтараецца: сакратарыят СТД «мае права ў неабходных выпадках прыпыняць кіраўнічыя рашэнні». Гэтыя дзве фармуліроўкі не стыкуюцца. Калі першая дае падставу меркаваць, што рашэнне аб «прыпыненні» можа быць вынесена, дапусцім, з'ездам ці пленумам (хоць і гэта не ўдакладнена), то другая прадастаўляе гэта права нават не прэзідыуму, а непасрэдна сакратарыяту. Але адсюль недалёка і да прадузятасці, і да самаўпраўства. А акрамя таго ўзнікае і такое пытанне: што гэта за «заканадаўства», згодна з якім грамадская арганізацыя, якой з'яўляецца СТД, можа адмяняць рашэнні дзяржаўных устаноў? Што маецца на ўвазе? Гэта па-**

# НА НОВАЙ АСНОВЕ

Лічу, што пераўтварэнне Беларускага тэатральнага аб'яднання ў Саюз тэатральных дзеячаў павінна адбыцца не механічна, а на прынцыпова новай аснове — Саюз павінен быць перш за ўсё **творчым**. На маю думку, не ўсе палажэнні апублікаванага праекта Статута СТД улічваюць менавіта гэтую задачу.

Пачну з таго, што ў Статуце не прадугледжаны арганізацыйныя формы сувязі кіраўніцтва Саюза непасрэдна з канкрэтнымі тэатральнымі калектывамі. Раней існавалі пярвічныя арганізацыі БТА непасрэдна ў тэатрах, цяпер яны ліквідаваны. А што ўзамен? Зразумела, у абласцях іх ранейшыя функцыі будуць выконваць мясцовыя арганізацыі Саюза. А ў Мінску? Адна мясцовая арганізацыя СТД на васем тэатраў? Пярвічныя арганізацыі БТА ў тэатрах спрыялі росту прафесійнага майстэрства, яны мелі пэўны аўтарытэт у вырашэнні шэрагу творчых, у тым ліку і канфліктных пытанняў, і добра было б, каб новы Саюз выкарыстаў іх станоўчы вопыт. Мне здаецца, без канкрэтных арганізацыйных форм прадстаўніцтва Саюза ў кожным тэатральным калектыве немагчымы плённы ўплыў СТД на тэатральны працэс рэспублікі.

У раздзел першы (§1) Статута, дзе вызначаюцца мэты і задачы Саюза, лічу неабходным дадаць, што СТД **«спрыяе творчай вучобе і росту прафесійнага майстэрства дзеячаў тэатра»**, бо гэта ж, напэўна, — адна з галоўных задач творчага саюза.

Адной з асноўных форм работы кожнага творчага саюза ў нашай краіне з'яўляецца работа яго секцый, прафесійных аб'яднанняў, камісій. Менавіта на пасяджэннях секцый абмяркоўваюцца ўсе надзённыя пытанні творчага працэсу ў той ці іншай галіне мастацтва, секцыя падсумоўвае ўсе ацэнкі, вызначае грамадскую думку, асноўныя напрамкі развіцця жанраў, аналізуе выніковасць тэматычных і фармальных пошукаў і г. д. У праекце Статута СТД БССР пра секцыі ўпамінаецца толькі аднойчы: «Праўленне мясцовай (?) арганізацыі кіруе работай прафесійных творчых аб'яднанняў і секцый пры іх наяўнасці». Дзіўна! Чаму толькі мясцовыя арганізацыі кіруюць работай секцый? А фармуліроўка «пры іх наяўнасці» дапускае ўвогуле магчымасць неіснавання секцый, у чым жа тады сэнс, сутнасць творчага Саюза? У апублікаваным раней праекце Статута СТД РСФСР ёсць спецыяльныя параграфы (§§ 19, 20, 21, 22 раздзела II), прысвечаныя рабоце творчых секцый. Чаму няма адпаведных палажэнняў у праекце Статута СТД БССР? Ці не захаваецца ў такім выпадку ранейшы, і, як мне здаецца, недэмакратычны парадак, калі спіс членаў, напрыклад, секцыі крытыкі вызначаўся пэўным валявым рашэннем і зацвярджаўся прэзідыумам БТА. На працягу пяці гадоў паміж з'ездамі БТА гэты спіс з 28 чалавек амаль не мяняўся. Замкнёнасць у вузкім коле, адсутнасць публічнасці як вынік боязі ўсяго новага, нешаблон-

НА ХВАЛЯХ ЭФІРУ

# Нішто чалавечае...

**БТ: разам ля экрана**

...На экране пажылыя жанчыны ўручную разгружаюць агромністыя біклагі з малаком. Аказваецца, у Магілёве на аўтатранспартных прадпрыемствах, якія абслугоўваюць харчгандаль, ліквідавалі пасаду грузчыкаў-экспедытараў. Відаць, у мэтах паскарэння. У выніку—перабоі ў забеспячэнні магазінаў малочнымі прадуктамі і справядлівыя скаргі пакупнікоў і прадаўцоў... Пра гэта расказаў нам у інфармацыйнай праграме «Панарама» 10-га красавіка журналіст У. Дубовік.

Яшчэ нядаўна падобны сюжэт не тое, каб не мог з'явіцца ў эфіры, але, скажам так, быў бы «нетыповы». Таксама, як сюжэт у «Мінскім весніку», які выйшаў у той жа дзень. Абураныя гараджане пры актыўнай падтрымцы карэспандэнта С. Івановай літаральна прыціснулі да сцяны адказную асобу з райвыканкома. Падзецца яму сапраўды не было куды: на Шкляным завулку, што паміж дзвюма новабудоўлямі,—непралазны бруд з-за таго, што розныя ведамствы ніяк не могуць дамовіцца, хто з іх больш адказны за чысціню...

У гэтых, на першы погляд, зусім непрэзентабельных сюжэтах бачыцца новы падыход у рабоце Галоўнай рэдакцыі інфармацыі, якога так не ставала раней яе перадачам. Інфармацыйныя праграмы, якія называюць—і не без падстаў—тварам тэлебачання, наблізіліся да гледача, да яго рэальных штодзённых праблем і клопатаў, журналісты больш актыўна ўмешваюцца ў жыццё.

Зразумела, «Панарама» па-ранейшаму аператыўна інфармуе пра ўсе важнейшыя падзеі, якія адбываюцца ў рэспубліцы. Апошнім часам з дапамогай тэлебачання мы пабывалі на будаўніцтве другой чаргі Мінскага метрапалітэна, удзельнічалі ў дэмакратычных выбарах кіраўніцтва аднаго з РАПА, пабывалі на міжнароднай выстаўцы камунальнай і бытавой тэхнікі, рыхтаваліся да Камуністычнага суботніка, знаёміліся з мастацтвам Пекінскай оперы, у Беларускім Камітэце абароны міру чыталі пісьмы, якія прыходзяць у падтрымку амерыканскага астрафізіка Чарлза Хайдэра.

У полі зроку «Панарамы» заўсёды грамадска значныя тэмы. Але ж і стварэнне першага ў Мінску кааператыўнага атэлье «Каруначніца», і праблемы з падсобнымі памяшканнямі Дзяржаўнага тэатра лялек БССР, і нават адчайная просьба сталічнай бібліятэкі № 18 (рубрыка «Па старых адрасах») адрамантаваць дах—таксама сёння набываюць грамадскае гучанне. І гэта добра разумеюць стваральнікі «Панарамы». Шкада толькі, што часам у пошуках новых тэм тут забываюць пра выбар адпаведнага жанру, пра пошукі новых прыёмаў падачы матэрыялу. Усё яшчэ зашмат на экране тэхналогіі, сухіх лічбаў, шэрых, «прахадных» сюжэтаў. Напрыклад, матэрыялам пад актуальнай рубрыкай «Саветы за работай» якраз і не стае рабочага, праблемнага падыходу да тэмы—пераважае ілюстрацыйны, некрытычны метад паказу. Няцяжка зняць на кінастужку некалькі шматпавярховых будынкаў у мікрараёне і прывесці лічбы навасёлаў за час «ад выбараў да выбараў», альбо папрасіць назваць гэтыя лічбы прадстаўніка вы-

зіцыя мае патрэбу ў вытлумачэнні...

Заадно зазначу, што прапанаваны пункт Статута чытаецца так, быццам «некампетэнтныя» рашэнні могуць прымацца толькі чыноўнікамі з кіруючых органаў культуры. Быццам усе беды адбываюцца ад гэтых чыноўнікаў. Што ж датычыць творчых работнікаў, то ўсе яны, канечне ж, «кампетэнтныя». Але дазволю сабе запытацца: а хто ж часцяком выбірае слабы рэпертуар? Ставіць дрэнныя спектаклі? А хто піша часам дрэнныя п'есы і слабыя рэцэнзіі на п'есы і спектаклі? Ці не тыя ж самыя творчыя работнікі, члены СТД, якія прывыклі без разбору называць работнікаў органаў культуры «некампетэнтнымі»?

У першым раздзеле (§ 2—3) сказана, што саюз «забяспечвае аб'ектыўную ацэнку з'яў тэатральнага мастацтва»... Вельмі хацелася б ведаць, па якіх крытэрыях, хто і якім чынам у СТД будзе забяспечваць гэтую «аб'ектыўную ацэнку»? З'езд? Пленум? Ці сакратарыят? І дзе гарантыя гэтай «аб'ектыўнай ацэнкі», калі ўсе кіруючыя таварышы ў СТД самі непасрэдна задзейнічаны ў тэатральнай прэсе са сваімі асабістымі пазіцыямі і схільнасцямі? Дзе гарантыя, што мы пазбегнем валюнтарызму, прадузятасці, кругавой парукі і дэмагогіі? Таму лічу гэты пункт Статута неабгрунтаваным. Напэўна, трэба змяніць фармуліроўку—замест слова «забяспечвае аб'ектыўную ацэнку», запісаць: «СТД удзельнічае ў вынясенні аб'ектыўнай ацэнкі...» і г. д.

У гэтым жа пункце сказана, што СТД «клапоціцца аб тым, каб у сферы крытыкі абарона таленту спалучалася з мастацкай патрабавальнасцю і партыйнай прынцыповасцю». Узнікае пытанне, пра якую «абарону таленту» ідзе гаворка? Ад каго «абарона»? Тут, відаць, гаворка павінна ісці не пра «абарону», а пра дастойную аб'ектыўную ацэнку таленту, зыходзячы, як тут і запісана, з высокіх пазіцый мастацкай патрабавальнасці і партыйнай прынцыповасці.

У раздзеле трэцім (§ 2) гаворыцца пра тое, хто можа быць членам Саюза. Лічу за абавязковае дадаць у прапанаваны спіс асоб, якія маюць права на членства, і рэжысёраў народных тэатраў.

*У Статуце зусім не нададзена ўвагі секцыям і камісіям.* А асноўная ж работа Саюза ажыццяўляецца менавіта гэтымі арганізацыямі. Тут усяго толькі сказана, што сакратарыят «стварае па асноўных напрамках творчай дзейнасці пастаянныя камісіі і творчыя секцыі». Чаму б не назваць, пра якія камісіі і секцыі ідзе гаворка? Чаму б не вызначыць іх правы і абавязкі, а таксама ўмовы прыёму ў гэтыя органы? Ну, напрыклад, уяўляецца абавязковым вызначыць крытэрыі для прыёму ў секцыю крытыкі і тэатразнаўства. Які творчы багаж павінен мець прэтэндэнт для ўступлення ў гэтую секцыю? Ці на гэта можа разлічваць кожны, хто апублікуе адну-дзве нататкі ў газетах?

У раздзеле другім (§ 16) гаворыцца аб «праўленнях мясцовых арганізацый». Што гэта за праўленні? Так, іх шмат у РСФСР, а ў нас пакуль не было. Калі яны прадугледжаны, то трэба было б агаварыць гэта ў Статуце з указаннем, дзе, пры якіх умовах ствараюцца гэтыя мясцовыя праўленні, а потым ужо гаварыць аб іх правах і абавязках.

Хацелася б, каб праца над Статутам СТД БССР была працягнута—*удумлівая і карпатлівая.*

**Ул. НЯФЕД.**

---

нага, свежага прыводзілі часам і да суб'ектывісцкіх ацэнак. Лічу, што Статут СТД павінен замацаваць сапраўды дэмакратычны арганізацыйны прынцып работы творчых секцый: кожны член СТД **мае права і абавязаны** свабодна, без папярэдніх спецыяльных выбараў і прызначэнняў удзельнічаць у рабоце творчай секцыі — асноўнай ячэйкі Саюза. Пасяджэнні секцый павінны быць заўсёды адкрытыя, публічныя, пра якія загадзя бюро секцыі шырока апавяшчае ўсіх членаў СТД. І не трэба баяцца, што на пасяджэнне секцыі крытыкі прыйдзе падзяліцца сваімі думкамі артыст або тэатральны мастак, а на пасяджэнне секцыі арганізатараў тэатральнай справы — крытык, бо ўсе мы, урэшце, робім агульную справу.

Варта было б вызначыць, па якой секцыі трэба «лічыць» памочнікаў галоўных рэжысёраў па літаратурнай частцы. Нядаўна на пасяджэнні Савета па драматургіі Саюза пісьменнікаў СССР (справаздача была ў «Литгазете») узнімалася пытанне аб неабходнасці мець інстытут так званых «літаратурных агентаў», якія б інфармавалі тэатры аб новых п'есах. А хіба памочнікі па літчастцы не могуць выконваць функцыі такіх агентаў? Улічваючы дэфіцыт п'ес для пастановак (хоць пішацца іх досыць багата), у рамках секцыйнай дзейнасці СТД неабходна перыядычна збіраць памочнікаў па літчастцы (заглітаў, як іх яшчэ называюць), можа, разам з рэжысёрамі, а можа, з драматургамі, што, на жаль, раней БТА не рабіла. Тады інфармаванасць тэатраў пра новыя п'есы вырасла б на некалькі парадкаў, а гэта значна аблегчыла б распрацоўку ў тэатрах рэспублікі перспектыўных рэпертуарных планаў.

Чамусьці ў праекце Статута СТД БССР апушчана палажэнне, якое ёсць у Статуце расійскага Саюза, аб тым, што старшыня праўлення Саюза і сакратары выбіраюцца не болей, чым на два тэрміны запар. Заўважым, што першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР Э. Клімаў лічыць, што кіраўніцтва творчага Саюза ўвогуле павінна выбірацца толькі на адзін тэрмін, а потым мяняцца («Московские новости», 22 сакавіка 1987 г.). Праектам Статута СТД БССР прадугледжана мець у Саюзе і сакратарыят, і прэзідыум. Ці патрэбна такая колькасць «генералаў» у творчым саюзе, усе члены якога павінны мець роўныя, аднолькавыя правы, ільготы і прывілеі? Калі сапраўды існуе неабходнасць мець і сакратарыят, і прэзідыум, дык гэта варта абгрунтаваць і ў Статуце, дзе чамусьці агавораны толькі функцыі сакратарыята. А што будзе рабіць прэзідыум? Лічу таксама, што канфліктная камісія з поспехам будзе выконваць сваю функцыю, калі яна будзе **выбірацца** на дэмакратычных пачатках на пленуме праўлення, а не прызначацца, калі ў яе ўвойдуць і радавыя, вопытныя, са стажам прадстаўнікі ўсіх тэатральных прафесій, а не толькі кіраўнікі. Іначай усе канфліктныя пытанні можа вырашыць сам сакратарыят ці прэзідыум, навошта ж яшчэ адна камісія?

Замацаванне ў Статуце СТД БССР вышэйназваных дэмакратычных прынцыпаў і палажэнняў, на маю думку, спрыяла б стварэнню сапраўды творчай атмасферы, якая павінна быць у Саюзе тэатральных дзеячаў.

**В. НІКІФАРОВІЧ,**
*член СТД БССР, памочнік галоўнага рэжысёра Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы па літаратурнай частцы.*

---

канкома... Ды варта было б, думаецца, даць мікрафон і ў рукі будучым выбаршчыкам—жыхарам таго ж мікраёна, папрасіць іх падзяліцца думкамі аб рабоце мясцовага Савета.

На жаль, хапае яшчэ ў інфармацыйных праграмах штампаў, прыблізных слоў і проста недакладнасцей. Яны іншы раз могуць паставіць карэспандэнта ў няёмкае становішча. У адным з сюжэтаў з Брэстчыны расказвалася аб падрыхтоўцы да рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці «Пеўчае поле». Ну, як тут было не прыгадаць Чайкоўскага і не прыпісаць яму словы: «музыку стварае народ, а кампазітар яе толькі дапрацоўвае»? Вось *толькі належаць гэтыя словы* (дарэчы, прыведзеныя не зусім дакладна) іншаму класіку—Глінку. Дробязь? Але цана «дробязі» ў 2—3 мінутным сюжэце вельмі высокая. Калі ў тэлеперакліччы (не новы, але па-ранейшаму эфектны прыём) Мінск—Брэст—Магілёў, прысвечанай падрыхтоўцы тэхнікі да сяўбы, каментатар «размаўляе» з карэспандэнтам, знятым на стужку, нібыта ў жывым эфіры—давер гледача да экрана, зразумела, адразу падае...

Варта адзначыць сталае месца ў «Панараме» каментарыяў на тэмы культурнага жыцця рэспублікі. У гэтым ёсць і заслуга каментатара — А. Дамарацкага. Яго апошнія выступленні вызначаюцца грунтоўнасцю, далікатнасцю, спакойнай разважлівасцю.

Некалькі слоў пра перадачы іншых рэдакцый БТ, якія прайшлі на пачатку красавіка.

Па-новаму, надзвычай сучасна, нават нечакана прагучаў «Фаўст» Гётэ ў тэлеспектаклі «Калі імкненню я скажу...» (рэжысёр — Н. Арцымовіч). Гэтая работа літаратурна-драматычнай рэдакцыі заслугоўвае асобнай размовы. Адзначым толькі, што прынцыповай удачай падалося выкарыстанне графічных аркушаў А. Кашкурэвіча на тэмы «Фаўста», якія сталі сэнсавым цэнтрам тэлепастаноўкі.

Думаецца, *не пакінула абыякавымі гледачоў размова*, якую вялі ў тэлечасопісе «Літаратурная Беларусь» філосаф У. Конан і пісьменнік Я. Лецка. Далёка не ўсё ў гутарцы здалося бясспрэчным, але менавіта ў гэтай небясспрэчнасці, завостранасці *пазіцый і ёсць несумненная вартасць перадачы.*

Цікавай магла атрымацца сустрэча з папулярным выканаўцам беларускай аўтарскай песні А. Камоцкім у перадачы «Тэлевізійны маладзёжны цэнтр» (здаецца, гэта першае запрашэнне самадзейнага спевака на БТ). Але размовы не атрымалася. Ды і песні Камоцкага прагучалі неяк невыразна — як выпадковы эпізод на фоне дэманстрацыі мод і выступленняў рок-груп.

Перадача «Мерыдыян» за 6-е красавіка пакінула дваістае ўражанне. З аднаго боку, прыемна было пагутарыць з цікавым чалавекам — англійскім кінадакументалістам Хопкінсонам. З другога — яўна не атрымаўся расказ пра часопіс «Амерыка». Нам прапанавалі свайго роду лекцыю, поўную лічбаў, цытат і плоскіх сентэнцый на тэму амерыканскай дэмакратыі. Тэма, безумоўна, вострая, і паспрачацца з нумарам часопіса, прысвечанага канстытуцыі ЗША, было б варта, і вельмі. Але варта было б помніць пры гэтым, што контрпрапаганда патрабуе сёння новага ўзроўню доказаў і аргументаў, што даказвае хоць бы цыкл перадач на ЦТ з удзелам У. Познера і Філа Донах'ю...

І нарэшце (а, мабыць, з гэтага трэба было пачынаць) — пра перадачы, якія выйшлі 1-га красавіка. Гэта «Каскад» і «Апошні шанц» (з удзелам аднайменнага ансамбля). Аказалася, што нашаму тэлебачанню зусім не чужыя іронія, жарт, сарказм і... проста ўсмешка. І ўсмешка гэтая аказалася тэлебачанню да твару. Вось толькі шкада, што 1-е красавіка надараецца нячаста.

**В. ТРАВЕНЬ.**

---

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў

**БУЛЫКА** Галіна Аляксандраўна. Паэт. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Осава Воранаўскага раёна. Скончыла хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1983). Працуе інжынерам-наладчыкам упраўлення пуска-наладачных работ трэста «Аўтарамбудмантаж» Мінаўтапрама БССР.

Літаратурную працу пачала ў 1975 годзе.

Аўтар падборкі «Дзень нараджэння снежня» ў калектыўным зборніку «Сцяжына» (1983), кнігі паэзіі «Сінтэз» (1986).

**КАЗАНАЎ** Барыс (Лапіцкі Барыс Міхайлавіч). Празаік. Піша па-руску. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Расна Горацкага раёна. Скончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1962) і Уладзівастоцкую мараходную школу (1963). Плавае на суднах гандлёвага флоту, займаецца творчай работай.

Літаратурную працу пачаў у 1962 годзе.

Аўтар кніг прозы «Прописан в Тихом океане» (1966), «Антоновские яблоки» (1968), «Осень на Шантарских островах» (Масква, 1972), рамана «Полынья» (Масква, 1984).

**МАРЦІНОВІЧ** Алесь (Аляксандр Андрэевіч). Крытык, літаратуразнавец. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Казловічы Слуцкага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1968). Працуе загадчыкам аддзела інфармацыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Удзельнік I і II Усесаюзнай нарады маладых крытыкаў дзіцячай і юнацкай літаратуры (1982, 1985).

Літаратурную працу пачаў у 1966 годзе.

Аўтар брашуры «Мастацкі летапіс сучаснасці» (1983), *прадмоў і пасляслоўяў* да перавыданняў і выбраных твораў беларускіх пісьменнікаў. Адзін з аўтараў кніг «Праца. Талент. Доблесць» (1981), «Беларуская дзіцячая літаратура» (1987). Склаў зборнікі контрпрапагандысцкай тэматыкі «Свабоднае грамадства» зблізку» (1984). «Мы і яны» (1985), «Слова міру і праўды» (1987).

**ПРАСКУРАЎ** Васіль Фёдаравіч. Нарысіст, празаік. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Нягоціна Дубровенскага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1964). Рэдактар Ганцавіцкай раённай газеты «Савецкае Палессе».

Член КПСС.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

Літаратурную працу пачаў у 1962 годзе.

Выдаў кнігі «Святая сівізна» (1966), «Трое з-за Лані» (1967), «Людзі-суседзі» (1974), «Пакажы чалавеку дарогу» (1979), «Пакланіся зямлі-карміцельцы» (1982), «Чорны хлеб» (1984).

**ФІЛІПОВІЧ** Марыя Канстанцінаўна. Празаік. Нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Смётанка Аршанскага раёна. Скончыла Магілёўскае медыцынскае вучылішча (1968) і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага (1980). Працуе бібліятэкарам Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі ў Оршы.

Літаратурную працу пачала ў 1977 годзе.

Аўтар кнігі «Мадонна з Выселак» (1984).

**ШЛЕГ** Алесь (Аляксандр Карпавіч). Празаік, нарысіст. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1965). Працуе рэдактарам галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага тэлебачання.

Літаратурную працу пачаў у у 1964 годзе.

Аўтар кніг «Трывожная памяць» (1968), «Цыганок» (1971), «Праўда адна ёсць» (1974), «Жыло *чаканне болю*» (1979), сцэнарыяў дакументальных фільмаў «Мужнасць», «Балтыйцы» і іншых твораў.

---

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# НАРАДЖЭННЕ НОВАЙ «ЗОРКІ»

Марыя Гулегіна ў ролі Амеліі ў спектаклі «Баль-маскарад» на міланскай сцэне.

На оперным небасхіле нараджаецца новая «зорка»: салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Марыя Гулегіна ў 1984 годзе заняла першае месца на Усесаюзным конкурсе вакалістаў у Ерэване, у 1985-м стала ўладальніцай залатога медалю на міжнародным конкурсе ў Рыо-дэ-Жанейра, у 1986-м—лаўрэатам міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага.

У сакавіку сёлетняга года М. Гулегіна выканала партыю Амеліі ў трох спектаклях «Баль-маскарад» Д. Вердзі на слаўтай сцэне тэатра Ла Скала. Перад яе ад'ездам з Мілана кіраўніцтва Ла Скала заключыла з ёй кантракт на сольны канцэрт з твораў Чайкоўскага і Рахманінава і ўдзел у оперы Вердзі «Два Фаскары».

У маі маладая спявачка едзе ў Венгрыю для ўдзелу ў спектаклі «Баль-маскарад». Наперадзе—выступленні ў лонданскім «Ковент-Гардэне».

**С. КЛІМКОВІЧ.**

**На студзеньскім Пленуме ЦК КПСС гаварылася аб тым, што «ўзмацнілася пранікненне ў савецкае грамадства стэрэатыпаў буржуазнай масавай культуры, якая навязвае пошласць, прымітыўныя густы, бездухоўнасць». Такім чынам, невыпадковы той факт, што сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку літаратурныя выданні, пішуць сёння з трывогай аб некрытычным стаўленні часткі маладых людзей да розных праяў масавай культуры, яе падманлівага бляску, аб іх, з другога боку, абыякавасці да многіх нашых высокіх паняццяў, аб ідэйна-духоўнай агрэсіі імперыялізму. «Самае жахлівае, — пісаў нядаўна на старонках «Литературной газеты» народны паэт Літвы Юсцінас Марцінкявічус, — што ўсё больш абмежаваных людзей з'яўляецца сярод маладых, якія напінаюць жаданыя модныя рэчы на бездухоўнае цела. Мода—іхняе ўсемагутнае бажаства». Аб тым, што называецца амерыканізацыяй быту, аб нездаровым захапленні ўсялякім матэрыяльным і духоўным шырспажывам, які пастаўляе заходняя масавая культура, гаворыць з трывогай у часопісе «Дружба народов» Чынгіз Айтматаў (№ 2 за г. г.). Дарэчы, і той, і другі з непакоем канстатуюць, што ў масе сваёй мы не выпрацавалі імунітэт супраць уплыву субкультуры (аб чым гаварылася і на нядаўнім з'ездзе Ленінскага камсамола).**

***Пра некаторыя аспекты праблемы, у прыватнасці, пра адзін са шляхоў выпрацоўкі імунітэту супраць «атручаных» відэанасет, разважаюць аўтары пісьмаў, якія прапануе сёння «ЛіМ».***

# ДАВАЙЦЕ ПАБУДЗЕМ МАКСІМАЛІСТАМІ

Завуць мяне Доўгаль Сяргей Мікалаевіч. Жыву *зараз у горадзе Днепрапятроўску, а ўсё жыццё* — бязвыезна на Украіне. І па нацыянальнасці — украінец. У Беларусі быў усяго некалькі разоў, ды і то не больш чым па тры дні. Але, не здзіўляйцеся, даўно цікаўлюся вашай літаратурай і культурай. Яшчэ ў юныя гады набыў на беларускай мове творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, а таксама «Беларуска-рускі слоўнік». Сачу за творчасцю маладзейшых беларускіх аўтараў. І вось у чым хачу прызнацца: неяк нечакана адчуваю прыліў свежых духоўных сіл, калі дакранаюся да культуры братняга народа. Дарэчы, хацеў бы мімаходзь узняць такое пытанне. Думаю, у далейшым трэба было справу паставіць так, каб, напрыклад, я ў сваім Днепрапятроўску мог узяць у бібліятэцы кнігу на беларускай, грузінскай, літоўскай мове, на мове іншага народа СССР, да *культуры якога захацелася дакрануцца.*

Але чаму я ўзяўся за пяро?

Чытаю вашу «Літаратуру і мастацтва». Прываблівае тое, што тут адчуваецца дух перабудовы, што змяшчаюцца разнажанравыя і разнапланавыя матэ*рыялы на актуальныя тэмы, у тым ліку на тыя, якія* да гэтага лічыліся чамусьці забароненымі.

Вернемся аднак да размовы аб мове. Пытанне, безумоўна, нялёгкае. Сутнасць яго зусім не ў просценькай формуле: на якой мове размаўляць? Інакш бы і адказ быў бы просценькім: высокаадукаваны, пасапраўднаму інтэлігентны чалавек павінен абавязкова валодаць як мінімум дзвюма мовамі — беларускай, мовай народа, на зямлі якога жывеш, і рускай, мовай міжнацыянальных зносін. Так не я лічу. Так, памойму, было ва ўсе вякі і часы. Найбольш адукаваныя людзі імкнуліся спазнаць як мага больш моў. Іншая справа, што сапраўдных інтэлігентаў зараз вельмі мала. Прабачце за максімалізм, але я так лічу. Таму што сапраўдных інтэлігентаў вылучае перш за ўсё духоўная моц, гэта значыць успрынятыя імі ідэалы свайго *народа, яго дух,* усё самае святое ў ім. Толькі сапраўднаму інтэлігенту, дзякуючы яго высокаму і светламу розуму, дадзена ўвасабляць у жыццё ўсё гэта, самае запаветнае, даваць яму далейшае развіццё з тым, каб высокая духоўнасць, культура ахаплівалі многіх. Цяпер давайце пабудзем крыху максімалістамі: калі такі ахоп будзе стопрацэнтны, ці будзе тады падстава гаварыць аб маральных недахопах, аб промахах у выхаванні? Не. Чым шырэйшы будзе такі ахоп, тым менш будзе падстаў гаварыць пра розныя негатыўныя з'явы ў нашым жыцці.

Словам, паўстае пытанне аб далейшым развіцці нацыянальных культур, як асновы і складаемых нашай шматнацыянальнай савецкай культуры. Без мовы ж, як вядома, любая нацыянальная культура немагчымая. *І культура* — справа не толькі асобных гуманітарыяў, а аднолькава ўсіх. Так я мяркую. І дрэнна, вядома, калі з цяжкасцю валодаюць мовай журналісты, калі яна гучыць у скажоным выглядзе ў тэатрах. Дарэчы, і згасанне сённяшняе вашых «Песняроў» я даўно прадбачыў. Чаму неяк згаслі сапраўды? Таму што не сталі натуральнай часцінай той натуральнай справы, якую прапагандавалі, што збіліся на тое ж рамесніцтва. Адкуль такі вывад? Скажу. Недзе гадоў дзесяць назад, будучы ў Гомелі, я глядзеў па Беларускім тэлебачанні перадачу пра «Песняроў». Вёў яе хтосьці з паэтаў, на беларускай мове. Але ніхто са спевакоў, як я пераконваўся ўвачавідкі, мовай не валодаў, не гаварыў на ёй. Вось табе і на — падумаў я. І яшчэ потым думаў аб тым, што рамесніцтва супрацьпаказана культуры.

Будзем *шчырымі: моладзь наша губляе пачуццё* радзімы. Паглядзіце, якой музыкай яна захапляецца — празаходняй. Добрая музыка заўсёды добрая, але, паверце, усе гэтыя «хэві-рокі» не выклікаюць якія-небудзь высокія, святыя, запаветныя пачуцці. Ды і самі маладыя не ўбіраюць у сябе гэтую музыку, а толькі «балдзеюць». Вось якая праблема.

Нам не патрэбны наркаманы, панкі, «металісты». Нам патрэбны сапраўдныя савецкія людзі, патрыёты нашай шматнацыянальнай Савецкай Радзімы, творцы вялікай сацыялістычнай культуры.

**С. ДОЎГАЛЬ.**

г. Днепрапятроўск.

# ЁСЦЬ НАД ЧЫМ ПАДУМАЦЬ...

Цалкам падзяляю думку Л. Тарасюк, выказаную ёй у артыкуле «Каб жыло дрэва культуры» наконт так званых школ «з ухілам» (гл. «ЛіМ» за 9 студзеня г. г.). Да такіх школ нас настолькі прывучылі, што выказванне супраць іх выклікае ў некаторай часткі чытачоў рэзка адмоўную рэакцыю. Маўляў, усе культурныя людзі павінны ведаць замежную мову. Асабліва неабходна англійская мова вучоным, праграмістам і г. д. Як быццам усё правільна. Але гістарычная і культурная сітуацыя далёка не тая, што была, скажам, у XIX ст., калі веданне моў сапраўды было паказчыкам культуры і адукаванасці. Тут мы ніяк не можам пазбыцца стэрэатыпаў мыслення. На самой жа справе адкрыццё школ з англійскім ухілам пры складанай сітуацыі з беларускімі школамі ў Мінску *і іншых нашых гарадах было той памылко*вай акцыяй, якая аб'ектыўна нанесла нам вялікую шкоду. Яна, гэтая акцыя (распачатая, дапускаю, з добрым суб'ектыўным намерам) спрыяла пэўнай амерыканізацыі нашай духоўнай культуры, выхаванню моладзі ў духу пакланення перад заходняй тэхнакратычнай цывілізацыяй. У свядомасці грамадскасці насаджалася думка аб прэстыжнасці такіх школ. Некаторая частка маладых людзей разам са сваімі бацькамі ўявілі сябе ні больш ні менш як элітай. А раз так, раз «эліта», то ці трэба прыслухоўвацца да роднага слова, шанаваць уласную культуру, чытаць беларускіх пісьменнікаў? Дарэчы, ці многа выпускнікоў гэтых школ сталі сапраўднымі вучонымі? Затое, я ўпэўнена, яны далі большы працэнт выездаў за мяжу, чым выпускнікі звычайных школ. *Няхай бы хто зацікавіўся такой статыстыкай.*

Далей. У многім дзякуючы гэтым школам такое шырокае распаўсюджанне атрымала рок-музыка. Яе аматары больш ахвотна і слухаюць і самі спяваюць англійскія тэксты, хоць савецкія рок-групы і імкнуцца сцвердзіць у свядомасці моладзі, што савецкі рок не горшы, чым замежны. Але савецкага року проста не можа быць. Творцы яго не разумеюць, што ідуць за чужой нам з'явай нават у слоўнай тканіне сваіх опусаў, бо ставяцца ў залежнасць ад выкрыку і выдыху, гэта значыць, ад фанетыкі і марфалогіі англійскай мовы—адной з самых кароткаскладовых у свеце. Рок узнік на англамоўнай аснове і абсалютна не стасуецца з нашым нацыянальным меласам.

Музыка разам са словам здольна змяніць псіхіку чалавека. Разбуральнае ўздзеянне заходняй музыкі на свядомасць моладзі ўжо дае свае горкія плады. Адначасова з «музычнай культурай» навязваецца культура паводзін, культура ўзаемаадносін, культура адзення, культура мыслення. Словам, атрымліваецца ланцуг, пачатак якога бачу я ў насаджэнні «прэстыжных» школ, пакланення перад чужой мовай. Пакланення, якое ішло з адначасовай недаацэнкай усяго нацыянальнага. Ды і ў звычайных школах гадзін на замежную мову больш, чым на родную, і клас разбіваецца на падгрупы—усё пастаўлена на салідную аснову. І нікому ў галаву не прыходзіць, што па сутнасці гэта ненармальнасць.

Агрэсіўнасць амерыканізаванага стандарту, «масавай культуры» абавязвае нас нарэшце пазбавіцца неапраўданай лагоднасці і паклапаціцца аб тым, каб зберагчы і замацаваць айчынныя асновы і культурныя традыцыі ў мастацтве і ў самім жыцці. Як вядома, патрыёт заўсёды і найлепшы інтэрнацыяналіст. Зыходзіць неабходна з гэтага.

Ну, а што ўсё ж рабіць з тымі, каму не дзеля прэстыжу, а для справы неабходна замежная мова? Вельмі проста. Адкрыць курсы замежных моў для **дарослых** *людзей: асобна для турыстаў, для камандзіраваных за мяжу, для вучоных.* Прычым курсы платныя. Свядомая ўстаноўка, жыццёвая патрэба намнога павысяць эфектыўнасць вывучэння мовы. Такое ж, «з ухілам» вывучэнне яе ў дзіцячым узросце пры цяперашняй палітычнай і культурнай сітуацыі лічу неапраўданым, якую б навуковую базу пад гэта ні падводзілі.

Што датычыць нашай мовы, то справядліва піша Л. Тарасюк: «...школа задыхнецца ў сваіх праблемах, калі перад ёй не будзе перспектывы вышэйшай гуманітарнай адукацыі на беларускай мове...». Калі так не будзе, усе размовы пра школьныя праграмы не маюць сэнсу.

Ідэальная нацыянальная сітуацыя, на мой погляд, такая, калі любы прадстаўнік усходнеславянскай агульнасці аднолькава добра разумее і чытае любы твор на рускай, беларускай, украінскай мове, пры гэтым атрымліваючы асалоду іменна ад арыгінала. Для гэтага неабходна вывучаць у школе старажытнарускую мову і, безумоўна, па-іншаму ставіцца да мовы роднай. Магчыма, мы нават хутчэй дасягнем поспеху, калі адначасова будзем падымаць прэстыж усіх трох усходнеславянскіх моў, пры гэтым актыўна культываваць факультатыўнае вывучэнне іншых славянскіх моў — балгарскай, польскай і інш. А то занадта мы абмежаваліся ў моўнай адукацыі.

Можа здацца, што гэта утопія? Ды трэба раіцца. Раптам і адшукаем найлепшае рашэнне.

**Таццяна ШАМЯКІНА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# «КАМУ ПАТРЭБЕН ГЭТЫ ПАТРЫЯТЫЗМ?»

Адной з актуальных тэм сёння з'яўляецца тэма амерыканскай культурнай экспансіі, неабходнасці процістаяння наплыву яе камерцыянізаваных сурагатаў. Для Беларусі гэта таксама актуальна, бо ў нас, на жаль, застой у маладзёжнай музыцы, неразвітасць масавых тэлевідэажанраў садзейнічалі пэўнаму распаўсюджванню якраз заходняй і больш таго — амерыканізаванай моды. Гэта тэма ўжо ўзнімалася рэспубліканскім перыядычным друкам, але пакуль што не вырашаецца. У той жа час не вельмі адчуваецца заклапочанасць выхаваннем трывалай нацыянальнай памяці, нацыянальнага гонару.

Думка гэтая ўвогуле не новая. Напрыклад, выразна яна гучыць у фільме ленінградскіх дакументалістаў «Глабальны прэсінг». Многія дзеячы сусветнай культуры гавораць там аб нацыянальных культурах як аб альтэрнатыве татальнай амерыканізацыі. Тут, думаю, няма чаго і палемізаваць.

Але, як заўважалася ў адным з артыкулаў на гэтую тэму, у нас, у Беларусі, часам лягчэй атрымаць англамоўную адукацыю, чым на роднай мове. Вось і адказ на пытанне, як мы падрыхтаваліся за адпору экспансіі.

Аб выніках можна было б гаварыць бясконца, ды лепш прывесці адзін характэрны прыклад. Летась у Мінску праходзіла унікальнае мерапрыемства — канцэрты «Тры колеры» з удзелам рок-груп «Бонда», «Магістрат», «Мінск». Чаму унікальнае? А дзе вы яшчэ бачылі маладзёжныя шоу на роднай мове? Дык вось, пасля чарговага сеанса задаволеная публіка выходзіць з *Палаца культуры і дзеліцца* ўражаннямі. Выкананне ўсе прызнаюць добрым, але многія здзіўлены, што салісты пяюць па-беларуску: «Каму патрэбен гэты патрыятызм?»

Думаю, гэта якраз вынік выхавання «абмежаванага да пэўных межаў» патрыятызму. Не нацыянальнага, а трохі болей... але каб не зусім касмапалітычнага... Ды вось бяда, штучныя межы ў рэшце рэшт ломяцца — і вырастаюць акселераты без пачуцця любові да сваёй бацькаўшчыны, без адчування яе гісторыі, яе культурных традыцый.

Зразумела, замежная культурная экспансія разлічана перш за ўсё на моладзь, і «культурныя каланізатары», трэба сказаць, умела выкарыстоўваюць яе вострапачуццёвае быццё. Закідваюць музыкай — аж ногі самі торгаюцца, фільмамі — аж мазгі навыварат... Думка? А што думаць маладому: гэта ён толькі пасталеўшы ўсвядоміць, што стаў на калені... Калі здолее.

Хіба ж нам няма чаго ім проціпаставіць? Разгорнем любы заходнееўрапейскі музычны часопіс — ён запоўнены таннай (у любым значэнні) і добраўпакаванай амерыканскай прадукцыяй. Разгорнем любы наш... Прабачце, а што разгортваць? «Музыкальную жизнь» ці «Вестник Министерства путей сообщения», дзе аб маладзёжнай музыцы аднолькавая колькасць інфармацыі? І калі хочаш у гэтай галіне аб нечым даведацца, дык пачнеш шукаць усё той жа «Поп корн», «Метал хамер», «Хард рок», «Білборд», «Меладзі Мэйкер», «Брава», «М'юзік Уік»...

І вось мы здзіўляемся, чаму моладзь лепш ведае заходнюю музыку, чым нашу, чаму там, на Захадзе, нічога не ведаюць пра нас, а мы пра іх — усё. Зусім не таму, што ў нас — быццам дрэнная музыка, а ў іх —быццам толькі добрая. Проста няма носьбіта інфармацыі аб ёй, і трапляецца яна пакуль у розных выпадковых ведамасных выданнях. А вынік?

Сядзім гэта з купкай моладзі на рэпетыцыі «Магістрата».

— Ну як? — пытаюся ў аднаго «металіста».

— Бляск! — падміргвае той. — Любога «Асэпта» за пояс заткне!

Шасцёра астатніх чуюць і згаджаюцца. Але мільёны іншых не чуюць: і не ведаюць. Яны слухаюць «Асэпт» па «відэа». Чаму ж не заклапочаны гэтым работнікі культуры? Колькі ж яшчэ мы будзем закрываць вочы на рэальныя працэсы?

**В. МАРТЫНЕНКА,**
**журналіст.**

г. Мінск.

# ВОЧЫ ГОР



Р. Барадулін і А. Веян у студыі Латышскага тэлебачання. 1975 год.

**У кожнай рэспубліцы, у кожным краі ёсць чалавек, які ўвасабляе для цябе гэтую рэспубліку, гэты край. Для мяне асабіста з незапомных часін Латвію, асабліва дарагую сэрцу беларуса Латгалію, увасабляе Андрыс Веян. Пасля Яна Райніса, Віліса Лаціса, Андрэя Упіта Андрыс Веян той прадстаўнік Латвіі, які запаў мне, студэнту універсітэта, у душу, палоніў маю ўяву. Асабліва падабалася мне гучанне прозвішча паэта. Значна пазней быў я крыху расчараваны, даведаўшыся, што сапраўднае прозвішча Андрыса Калнач, што значыць «вочы гор». Наогул у Латвіі шмат прозвішчаў і назваў паселішчаў, ваколіц звязана з гарамі. Гэта, напэўна, ідзе ад жадання бачыць свой край вялікім не толькі духам і культурай, але і адарыць яго вышынёй. Мне да гэтага часу цёпла гучыць імя латышскага мястэчка, гарадка Глыбокія горы. Гэта цудоўна, што ў родным краі, у бацькоўскай старане і ўзгорак гарою здаецца. І не выпадкова продкі Андрыса Веяна (псеўданім таксама няблага гучыць, калі ўлічыць пачатак песні «Ветрык. вей!», калі прыгадаць славутую аднайменную п'есу Яна Райніса) былі нарачоны «вачыма гор». І сама паэзія Андрыса Веяна глыбока народная, якая каранямі сваімі ідзе ў гісторыю і ў балцкае паганства, а клопатам сваім паўсядзённым сучасная, зразумелая інтэлектуалу і простаму працаўніку мора і поля. Мне асабіста цяжка ўявіць Латвію без Андрыса Веяна, латышскую паэзію без ягоных усхваляваных, па-сялянску, па-латгальску дзябёлых, дакладных радкоў. У ягонай паэзіі, у ягонай натуры ёсць латышская інтэлігентнасць, і сялянская грунтоўнасць, хітрынка, прыжмурынка. У нас у Беларусі любяць і высока шануюць паэзію Андрыса Веяна. Шматлікія паэты лічаць для сябе за гонар перакладаць вершы Андрыса. Бо ён як ніхто з латышскіх паэтаў надзвычай чуйна, чула і сардэчна ставіцца да нашага народа, да нашай культуры, да нашай класічнай і найноўшай паэзіі. Гэта традыцыя Яна Райніса і Яна Судрабкална. Самыя пранікнёныя нізкі пра Беларусь напісаў Андрыс Веян. За гэта зямны паклон майстру ад суседняй і роднай яму Беларусі.**

**У паездках па Савецкім Саюзе і на берагах Ціхага акіяна, у Прыкарпацці, у Сярэдняй Азіі і ў нас у Беларусі паўсюль было прыемна бачыць, чуць Андрыса Веяна, які годна прадстаўляў родную вялікую Латвію, вялікую старажытнасцю сваёй мовы, сваёй жывучай культуры, вялікую невынішчальнай любоўю латышоў да сваёй зямлі, да свайго мора, да сваёй гісторыі.**

**Верыцца, што доўга будуць гучаць на зямлі Латвіі шчырыя радкі яе ўлюбёнага сына Андрыса Веяна. З кнігі ў кнігу, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе!**

**Віншуючы дарагога Андрыса Веяна з 60-годдзем, прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа» верш латышскага сябра ў сваім перакладзе.**

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

**Андрыс ВЕЯН**

## *Янку Купалу*

I

**Выходзіш з забалоцця.**  
**Не, ўзыходзіш**  
**Найзыркай зоркай пасярод туману**  
**І пачынаеш жаўранкам спяваць.**  
**Над Вязынкай вятры праносяць песню,**  
**Яна, як рэчка, поўная ад болю,**  
**Ад скрухі ледзяной,**  
**Яна, як тая**  
**Раса на пасце досвіткам...**

**Ды бачу:**  
**Пачуўшы песню,**  
**Людзі сонца прагнуць,**  
**Ад гэтай прагі ніцы змрок знікае,**  
**І ласкавее асака ў балоце.**

II

**Зямля сяброў,**  
**Зліваешся ты з нашай,**  
**Як гора з горам,**  
**Як бяда з бядой.**  
**Галечу бачаць вочы ўдзень і ўночы.**

СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ

**Барыс САЧАНКА**

# ШТРЫХІ

## ЧАЛАВЕК. ПІСЬМЕННІК. НАСТАЎНІК.

Апошнюю сваю кнігу — «Белы сокал» — Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі падарыў мне з такім надпісам: «Дарагому Барысу Іванавічу, са шчырай павагай і адчуваннем трываласці ў нашай дружбе. Ад душы. Аўтар. 8.VII.85 г.».

Трываласць у нашай дружбе... Яе, гэтую трываласць, я адчуваў заўсёды, з першых сваіх крокаў у літаратуру, ёю даражыў, і быў шчыра рады заслужыць прызнанне ў тым самым і ад яго, намнога старэйшага, умудронага гадамі і вялікім жыццёвым вопытам таварыша і калегі.

А пачыналася гэтая дружба гадоў трыццаць таму назад. Я, студэнт універсітэта, перапоўнены ўражаннямі пабачанага і перажытага ў дзяцінстве, паспрабаваў расказаць, што мяне хвалявала, — хацеў, каб ведалі тое, што ведаю я, і іншыя людзі. Не мне меркаваць, што з гэтага атрымалася, але тады, прачытаўшы першыя спробы майго пяра, І. Я. Навуменка — аўтар ужо многіх апавяданняў, выкладчык роднай літаратуры і мой зямляк — параіў сёе-тое занесці ў часопіс «Маладосць». Галоўным рэдактарам «Маладосці» ў тыя гады працаваў А. М. Кулакоўскі, кнігі якога я ведаў, нават меў адну з іх з аўтографам, атрыманым на чытацкай канферэнцыі. У «Маладосці» існавала пахвальная практыка — калі прымаўся да друку твор маладога аўтара і трапляў на стол да галоўнага рэдактара, яму, галоўнаму рэдактару, прадстаўлялі і маладога аўтара. Не ведаю, як было з іншымі, а са мною, калі адно з першых маіх апавяданняў было ўхвалена, Аляксей Мікалаевіч гаварыў адзін на адзін. Гаварыў доўга. Дакладней, не гаварыў, а распытваў. Распытваў пра ўсё — і дзе я нарадзіўся, і хто мае бацькі, і якое пражыў я жыццё, што бачыў, ведаю, і чаму ўзяўся за пяро — пачаў пісаць. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на мову падрыхтаванага да друку твора, на «дэталькі», якія там былі. Параіў, каб гэтых «дэталек» — мастацкіх знаходак — было больш, каб у мове адчувалася тая мясцовасць, край, адкуль я паходжу. Вядома, папытаў ён і што я чытаю, каго з беларускіх пісьменнікаў люблю. Словам, здаючы ў друк твор, рэдактар хацеў як мага больш ведаць пра аўтара. Але не толькі — чалавек і пісьменнік Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі хацеў ведаць больш пра іншага чалавека і, магчыма, будучага пісьменніка, — што ў яго за душой, што ён можа прынесці з сабой, даць літаратуры.

Тая шчырая, душэўная размова, сам спакойны, добразычлівы яе тон надта ж натхнілі мяне. І я яшчэ ахвотней, нават як бы з імпэтам, маладым задзёрам пачаў пісаць, пісаць усюды, дзе б ні быў — на лекцыях, у студэнцкім інтэрнаце, дома, на канікулах. Творы мае — мініяцюры, абразкі, апавяданні — з'яўляліся на старонках спярша тонкай, а потым і тоўстай «Маладосці». І заўсёды, амаль на кожны мой твор, калі не асабіста, дык праз супрацоўнікаў Аляксей Мікалаевіч перадаваў сваю як бы рэцэнзію — думку. Вядома, я таксама цікавіўся, сачыў амаль за ўсім, што піша пісьменнік Аляксей Кулакоўскі, не прапускаў ні аднаго яго твора, вучыўся і мове, і ўменню ствараць запамінальныя вобразы, пэўны настрой і асабліва — праз дробязі — «дэталькі» — раскрываць характары людзей. Не прапусціў, прачытаў я і яго аповесць «Дабрасельцы». Шмат, заўзята спрачаўся з некаторымі сябрамі-студэнтамі, даказваючы, які гэта праўдзівы твор, як неабходны менавіта такі падыход да сучаснасці, а не той, што панаваў у літаратуры. Добра помню, як будучы ў камандзіроўцы ў Гомелі, купіў газету «Літаратура і мастацтва», разгарнуў і ўбачыў вялізны загаловак «Чорнымі фарбамі» над артыкулам, напісаным Я. Герцовічам, і дзе не разбіралася, а проста шальмавалася новая аповесць Аляксея Кулакоўскага. Потым, праз некаторы час, гэтая аповесць абмяркоўвалася ў Саюзе пісьменнікаў. На гэтым абмеркаванні выступалі многія пісьменнікі. Вядома, не ў абарону аўтара, а з асуджэннем...

А. М. Кулакоўскага вызвалілі тады ад пасады галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць»...

Цяпер мы бачыліся радзей, часцей за ўсё выпадкова — на вуліцы, у Саюзе пісьменнікаў. Аляксей Мікалаевіч надта ж перажываў страту рэдактарства. Не толькі таму, што прывык да гэтай працы, але, відаць, і таму, што не мог сустракацца з многімі маладымі, каго ён адкрыў, з кім пазнаёміўся сам і пазнаёміў чытачоў, не мог аказваць ім дапамогу. Было і яшчэ адно, што надта ж балела, — напісаў праўду і за гэта пакараны...

Прыйшоўшы на працу ў аддзел прозы часопіса «Полымя», я сустрэўся з Аляксеем Мікалаевічам ужо як з аўтарам. Уразіла, асабліва напачатку, яго акуратнасць, нават быццам педантызм — кожная літарка, кожная староначка рукапісу былі ў ідэальным стане. Нідзе ні памарачкі, ні аднаго праўленага слова. Калі я спытаўся, як гэта яму так удаецца, ён прызнаўся, што не церпіць брудных рукапісаў, просіць пасля кожнай, нават нязначнай праўкі перадрукоўваць старонкі. І ў гэтым, як потым я пераканаўся, быў Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі, як кажуць, увесь, з галавы да ног. Калі ён нешта браўся рабіць, то не дапускаў браку, дарэчы, і не цярпеў, калі дапускаў брак нехта іншы. Быў выпадак — з «Полымя» выслалі Аляксею Мікалаевічу карэктуру ў дом адпачынку. Аляксей Мікалаевіч прачытаў карэктуру, паправіў і адаслаў назад у Мінск, у «Полымя». Вярнуўся з адпачынку, зайшоў у рэдакцыю, а карэктуры ўсё яшчэ няма. Тады ён, разгневаны, напісаў скаргу міністру. Карэктуру знайшлі, яна, выявілася, некалькі сутак ляжала на паштамце. Яе, гэтую карэктуру, прынесла нам у рэдакцыю жанчына. Прынесла з плачам — за нядобрасумленнае выкананне абавязкаў яе вызвалялі з працы. Мы ўсё ж угаварылі пісьменніка не караць так жорстка жанчыну.

Адказнасць за ўсё, што б ні рабіў, у Аляксея Мікалаевіча была надзвычай высокая. У любой справе не павінна быць неахайнасці, дробязей, нечага другараднага. А тым больш у нашай, пісьменніцкай. Бо неахайнасць у адным прыводзіць да неахайнасці ў іншым, бывае, у вельмі важным. І Аляксей Мікалаевіч, пражыўшы немалое жыццё, гэта добра ведаў, гэтага прытрымліваўся, гэтага патрабаваў ад усіх, хто б і што ні рабіў, на якой бы пасадзе ні быў. Наадварот, чым большая была пасада, тым большыя патрабаванні былі ў пісьменніка да тых людзей, хто займаў гэтыя пасады...

І лёгка і нялёгка было рыхтаваць рукапісы твораў Аляксея Мікалаевіча Кулакоўскага да друку. Лёгка, бо ўсё ў іх было дагледжана, даведзена да ладу — кожная літарка, кожная косачка, кожнае слоўца было на месцы. Нялёгка, бо Аляксей Мікалаевіч ніколі не крывіў душою, пісаў тое, што думаў — праўду, і толькі праўду. Як яе бачыў, як ведаў, як разумеў. Сёння гэта радавала б. Але тады былі іншыя часы. Пісьменнік не пра ўсё павінен быў пісаць, не ўсё паказваць. І творы Аляксея Кулакоўскага пасля надрукавання ў «Маладосці» «Дабрасельцаў» чыталіся ўважліва. І не толькі літаратурнымі рэдактарамі. Да таго ж, сам Аляксей Мікалаевіч быццам не разумеў, чаго ад яго дамагаюцца, патрабуюць. Здаралася і горш. Мы падрыхтуем рукапіс, здадзім у набор, а Аляксей Мікалаевіч возьме ўрывак і занясе ў газету. Там пачытаюць і мала таго, што не надрукуюць, дык яшчэ і пазвоняць, куды трэба, папярэдзяць: маўляў, Аляксей Кулакоўскі напісаў новы твор, яшчэ больш ачарніцельны, чым «Дабрасельцы». І новы твор пісьменніка затрымліваўся, яшчэ і яшчэ чытаўся ў розных інстанцыях. І, вядома ж, калі потым і друкаваўся, дык зусім не ў тым выглядзе, у якім быў здадзены аўтарам у рэдакцыю...

Пашчасціла мне працаваць з Аляксеем Мікалаевічам у партыйным бюро, а потым і ў апараце Саюза пісьменнікаў. У працы, гэта ведае кожны, здараюцца розныя моманты і сітуацыі. І не толькі прыемныя. Аляксей Мікалаевіч умеў праявіць характар, пастаяць і за сябе, і за справу. Патрабаваў ад кожнага, каб была да яго, пісьменніка, адпаведная павага. Асабліва не любіў ён зазнайства, пустазвонства, фанабэрыі. Не цярпеў, і калі малады праяўляў непавагу да старога чалавека, асабліва заслужанага і перад літаратурай, і перад грамадствам. З Аляксея Мікалаевіча некаторыя пакеплівалі, праўда, не злосна, лічылі яго заўвагі і патрабаванні іншы раз дробязнымі. Але ў яго — паўтараю! — дробязей не было. Для яго ўсё было важным. Абплюхаў, едучы па лужынах пасля дажджу, людзей на аўтобусным прыпынку таксіст... У іншага гэта б не выклікала асаблівых эмоцый — ці мала што бывае... А Аляксей Мікалаевіч гэтым абурыўся. І знайшоў таксіста, пагаварыў, прысарамаціў яго, каб другі раз быў больш асцярожны, абачлівы, паважаў людзей. Гэтакую ж непрымірымасць, прынцыповасць ён праяўляў ва ўсім і ўсюды. Ніколі і нідзе не баяўся хамства назваць хамствам, невуцтва — невуцтвам, чынушу — чынушай...

— Братачка, ты не крыўдуй, але ж хто табе гэта скажа, як не я, Аляксей Кулакоўскі, пісьменнік, прозвішча якога ты, можа, і не чуў, і кніг якога, напэўна ж, не чытаў, — гаварыў ён.

Надта ж любіў Аляксей Мікалаевіч парадак ва ўсім. І падтрымліваў яго як толькі мог. У кабінеце ні адна рэч не ляжала не на сваім месцы. Калі хто незнарок, а то і знарок (былі і такія!), парушаў гэты парадак, ён тут жа ўсё папраўляў, ставіў ці клаў на сваё месца. Маўкліва, а іншы раз з усмешкаю.

— Ты, братачка, не чапай тут нічога. Хай будзе ўсё так, як было, — прасіў ён быццам вінавата.

Сустракаліся з Аляксеем Мікалаевічам часта мы і потым, калі ён працаваў дырэктарам музея Янкі Купалы. Бо і жылі ў адным раёне, былі дэпутатамі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, ды і сам Аляксей Мікалаевіч не мінаў ніколі Саюза пісьменнікаў.

— Куды ты, Барыска, так спяшаешся? Давай хоць пагамонім, паходзім, — спыняў ён іншы раз мяне ў парку.

Хадзілі, гаманілі. Нават аднойчы завіталі ў бар, дзе заседзеліся, як раней казалі, да трэціх пеўняў.

Нямала было тых, хто рабіў Аляксею Мікалаевічу прыкрасці, а то і зло. Але ў Аляксея Мікалаевіча, калі і была на

І толькі песня пасылае рэха
Надзеі!
Я, ззалелы пастушок,
Пачуў: у гром перарастае рэха
Над возерам!..
А босага мяне
Раса марозіць, рэжа асака,
Яшчэ ў спіну мяне вятры штурхаюць.
Ды ёсць жа сонца!
Дзе, скажыце, сонца!

III

А вось яно!
Яно ўжо цёпла ззяе,
Ідзе па вострых травах басанож.
Я жытні хлеб да сонца падымаю
І ледзяной расы зусім не чую,
І вецер бізуном наўзмаш не б'е.

IV

А ты! Дзе ты!
Штогодна да мяне
Ідзеш,
Мы разам папараць шукаем,
У ноч на Яна папараць цвіце,
Той, у каго наш клад, наш скарб...
Агнямі
Ноч Яна асвятляе нам дарогу,
Нявогледдзю я за табой ступаю
І веру: кветка шчасця зацвіце!

**Уладзімір БРОЎЧАНКА**

## Кіеў. Вясна 1986 года

I

На пасецы ў Чарнобылі пчала,
Калі наўкол усё цвіло, буяла,
Да вулля свайго нектар нясла,
Святы і трудны дзень свой завяршала.

Злівала ў соты дар ва ўсе вякі.
Як шыбкі ў вокнах, соты так блішчэлі,
І ўзводзіла на новыя віткі
Акрыленай работы каруселі.

Ці люты перст на пасеку ўказаў,
Ці клінам свет на тым вуллі сышоўся,
Бо ў вулей гром маланкі заганяў,
І ён, бліснуўшы мёдам, раскалоўся.

І пасечнік тады памёр стары,
І закранула трутняў толькі страхам...
Упэўніліся мы, хто ў нас сябры,
А ворагі смяяліся тым часам.

І разляцеліся раі усе
І вакол матак у клубок звіліся.
А ўсе, хто сем'і страцілі свае,
Ад гора у шаленстве распаўзліся.

На поўначы згусцілася імгла,
За Вышгарадам, як за Абалонню...
Да Кіева прызумкала пчала
І на маю спусцілася далоню.

Усіх жывых трывога заняла,
Смуткуюць неба, кветкі, дрэвы, далеч...
Без рою роднага пампрэ пчала,
І, паміраючы, яна уджаліць.

II

Калі уранку промень росы вып'е,
Калі на небе сонейка плыве,
Сяло, як заўжды, загляне у Прыпяць
І без людзей сябе не пазнае.

Бач, хтось забыў на прывязі сабаку,
І з голаду, няшчасны, мусіць, здох.
Ад роспачы, магчыма, ці ад страху
Узняўся пад страху чартапалох.

І мелася вясна вітацца з летам,
І нават не разлічвала зусім,
Што будзе плакаць жыта і палетак
І з аратаем, і касцом сваім,

Што зарасце сцяжынка да крыніцы,
Рассохнуцца на беразе чаўны,
Што ў тым сяле ніколі не прысніцца
Страхоцце ўсё мінулае вайны,

Што закаханых лаўкі, што пры вокнах,
Не дачакаюцца: прастыў іх след,
Што слава хлебаробская прымоўкне,
Набытак нашай радасці і бед...

Ні голасу нідзе, ані дымочка,
Аж сем дзесяткаў дзён іх — анідзе.
З вяроўкай вецер тузае сарочку,
Квактуха у бур'яне недзе квокча
І куранятак вывадак вядзе.

III

Вецер паўночны сцягі усе палошча,
Шуміць у каштанах, што ў белай акрасе,
Як на маленне, выходзім на плошчу
Перад народам, зямлёю і часам.

Даруйце мне, людзі, даруй, Украіна,
І вы, беларускія вёскі, і клёны,
Звяр'ё ўсё, і птахі, і звон камарыны,
Што я спатыкнуўся у руху шалёным.

Даруйце, матулі, унукі, хаціны,
І вы, землякі, што свой дом пакідалі,
І вы, што ўзняліся харобра, наіўна
І кратар вулкана грудзьмі закрывалі.

Даруйце чарэшні, і горы, і схілы,
Асфальт і паветра, каменне і воды,
І дні, што надыдуць, і продкаў магілы,
Народ мой і тыя, што прыйдуць, народы.

Бяда засталася дакорам у сэрцы:
Душы не даклалі у формулы й чыслы.
Даруй ты мне, сіла жыцця, а не смерці,
Што я не дагледзеў, што я недамысліў...

IV

Вясна. І навокал — прастора.
І Кіеў нязменна стаіць.
І наша нябачнае гора, —
Яго больш, чым гора, — таіць.

Як фронт... Паражэнні, і смерці...
І чуцен душы камертон,
Што з гонарам можам памерці,
Што можам і гора расцерці,
Але не здавацца ў палон.

Бяром дэзерціра на мушку
(А ён яшчэ ёсць, паўстае!)...
І ўсё ж на базары пятрушку
Бабулечка не прадае.

Вясной расквітнела трывога...
І сонца сігналіць часцей,
Што наша пад сонцам дарога
Чарнобылем не зарасце.

Пераклаў з украінскай
Ю. СВІРКА.

каго крыўда, дык нядоўга, напачатку. А потым праходзіла. Праўда, неаднойчы, убачыўшы таго ці іншага, гаварыў ён, відаць, не толькі мне:

— Быццам і чалавек, і пісьменнік... А Кулакоўскаму колькі крыві папсаваў... І за што? Я ж яму ніколі нідзе вады не замуціў. Здаралася, нават памагаў...

І ўсміхаўся неяк ціха, стоена...

Калісьці, у вайну, Аляксей Мікалаевіч камандаваў штрафной ротай. Быў некалькі разоў паранены. Смелым, мужным ён быў і потым, у мірныя дні. Неаднойчы падстаўляў плячо, а то і галаву, абараняючы таварыша. Мужна вёў ён сябе і ў апошнія дні свае, будучы смяртэльна хворым. Ніхто не чуў ад яго скаргаў. А калі і былі скаргі, дык чыста пісьменніцкія — падоўгу трымалі ў рэдакцыях яго творы, не спяшаліся здаваць іх у друк.

А ён пісаў. Пісаў заўсёды, у любых умовах. Пісаў многа і да апошніх дзён жыцця. Быццам спяшаўся выказаць усё, што набалела, было ў яго на душы.

Яны, гэтыя творы, чакаюць свайго ўдумлівага, добразычлівага чытача і даследчыка.

## НЯСКОНЧАНЫЯ СПРЭЧКІ

Даўно і не мною заўважана: у кожнага чалавека ёсць тое, у чым ён, як кажуць, увесь, уся яго сутнасць, па чым яго і вылучаюць, запамінаюць з тысяч, мільёнаў У Андрэя Ягоравіча Макаёнка такім, у чым ён быў увесь, уся яго сутнасць, мне здаецца, была здольнасць трымаць сябе ў напружанні, штосьці камусьці даводзіць, даказваць, у чымсьці кагосьці пераконваць, словам — спрачацца. Нават творчасць яго — камедыі, фельетоны, артыкулы — гэта таксама нішто іншае, як яго спрэчкі. З людзьмі, з часам, з жыццём, з заведзенымі і ўстаялымі парадкамі, з самім сабою...

...Мяне, студэнта чацвёртага курса БДУ імя Леніна, залічваючы на працу ў рэдакцыю часопіса «Вожык», папярэдзілі:

— Толькі не рабі таго, што Андрэй Макаёнак.

І мне расказалі, як гадоў колькі таму назад у штат «Вожыка» ўзялі маладога здольнага сатырыка Андрэя Макаёнка—яму было даручана разбірацца з пісьмамі-скаргамі, што прыходзілі ў рэдакцыю, а ён... Словам, мінае дзень, мінае два, мінае тры, — ні адно пісьмо не паступае ў рэгістратуру. Ды і ў аддзелы, да рэдактара. Пайшлі высвятляць, у чым справа. І бачаць — сядзіць Андрэй Макаёнак за сталом і са злосцю дзярэ на шматкі гэтыя самыя пісьмы ды ў сметніцу кідае. «Што ты робіш?» — не вытрымаў нехта, крыкнуў. «А куды ж гэты бруд дзяваць? — пытае Андрэй Макаёнак. — Няхай я час марную, чытаю. Дык яшчэ каб і іншыя марнавалі? Няхай лепш карысным чым-небудзь займаюцца. Прывучаць людзей паклёпы адзін на аднаго пісаць... Не варта!»

Фельетаніста, ды і драматурга Андрэя Макаёнка — аўтара драмы «На досвітку» і камедыі «Выбачайце, калі ласка», якая не без поспеху ўжо ішла на сцэне купалаўскага тэатра, я ведаў. Праўда, не асабіста. І папярэджанне: «Толькі не рабі таго, што Андрэй Макаёнак», — запомніў. І потым нене, дый згадваў, асабліва калі некаторыя з тых самых людзей неўзабаве пачалі папярэджваць іншых маладых, каб тыя... не пісалі таго, што піша... Барыс Сачанка. А я, як тады па маладосці мне здавалася, пісаў якраз тое, што і трэба пісаць— праўду. І няпраўды, маны не цярпеў, — выкрываў яе ўсюды — у вусных выступленнях, артыкулах, фельетонах. І таму не было нічога дзіўнага ў тым, што, паглядзеўшы ў тэатры новую камедыю Андрэя Макаёнка «Лявоніха на арбіце», я не вытрымаў — выступіў на адным з пленумаў Саюза пісьменнікаў БССР. Мяне, сына вёскі, не магла не насцярожыць несвоечасовасць, неабдуманасць некаторых паднятых у камедыі праблем, асабліва, калі размова ішла пра неабходнасць адмаўляцца селяніну ад каровы, а значыцца, і ўсяго таго, што называем мы хатняй гаспадаркай і прысядзібным участкам. Я ведаў, што такое карова ў сялянскай сям'і, ды і прысядзібны ўчастак, тая ж авечка, свінчо, курыца... Выклікала жаданне спрачацца з аўтарам і яшчэ адно — сам Андрэй Макаёнак будаваў сабе дачу, а селяніна заклікаў адмаўляцца ад... кароўкі...

Выступленне на пленуме дало мне, тады маладому і задзірыстаму, як прыхільнікаў, так і непрыяцеляў. Адносіны з Андрэем Макаёнкам, якога я быццам трохі і ведаў і не ведаў, ускладніліся яшчэ больш, калі яму сказалі, што я зямляк Івана Мележа, з якім ён гадоў колькі ўжо нават не вітаўся. Маю шчырасць і непрымірымасць да няпраўды ён расцаніў... як удар, які нанёс яму Іван Мележ маімі рукамі. Што ж, у жыцці, як кажуць, усякае бывае. Андрэй Макаёнак думаў сваё, а я... сваё.

Трэба аддаць належнае Андрэю Ягоравічу. На адным з застолляў ён падсеў да мяне, і мы, што называецца, высветлілі свае пазіцыі. І ён, і я былі сынамі вёскі, думалі пра яе людзей, жылі тымі праблемамі, што хвалявалі ўсіх. І гэта, пры ўсёй рознасці характараў, поглядаў і думак, нас зблізіла. Неаднойчы Андрэй Ягоравіч запрашаў мяне паглядзець той ці іншы спектакль па сваёй п'есе. Здаралася, і даволі часта, і ў застоллях самых розных разам бываць, весці вострыя і гарачыя спрэчкі, якія заканчваліся нярэдка за поўнач. У той час я працаваў ужо ў часопісе «Полымя», і Андрэю Ягоравічу—хочаш не хочаш, — а трэба было мець справу са мною як адным з рэдактараў яго твораў. Прызнаюся: аўтар Андрэй Макаёнак быў не з лёгкіх. Заўваг ён амаль не прымаў, сустракаў іх у штыкі. Але ў друкаванага слова свае законы. Да таго ж, смельчакоў, хто б падпісваў злабадзённыя камедыі Андрэя Макаёнка, было няшмат. У той жа час драматург таксама добра ведаў сілу друкаванага слова, вядома, са свайго, аўтарскага боку: тое, што не надрукавана ў часопіса, нялёгка потым аднавіць, каб яно вымаўлялася, гучала са сцэны... Было і яшчэ адно, да чаго мы часта не маглі прыйсці да згоды — мова твораў драматурга. Андрэй Ягоравіч стаяў на той пазіцыі, што мова герояў пры ўсёй індывідуалізацыі, павінна быць зразумелая, прычым, не толькі тым, каму яна родная, але і тым, хто ўпершыню трапляе ў наш тэатр, упершыню чуе беларускую мову. А таму часта ўжываў русізмы. «У тэатр са слоўнікамі не ходзяць. Не зразумеў ці не дачуў — усё, стрэл міма», — любіў казаць ён. У рэдакцыі ж часопіса «Полымя» імкнуліся мову герояў Андрэя Макаёнка як мага наблізіць да народнай, беларускай. Выклікалі адпаведную рэакцыю і некаторыя іншыя моманты. Андрэй Макаёнак любіў зачапіць як бы мімаходзь сяго-таго з канкрэтнага начальства, абсмяяць тую ці іншую канкрэтную з'яву, падзею. Гледачы ў тэатры на гэтыя рэплікі герояў надта ж бурна адклікаліся. А друкаваць гэтыя, часам не вельмі прадуманыя, рэплікі... Ці, скажам, у камедыі-рэпартажы «Таблетку пад язык» я не верыў, ды і сёння не магу паверыць, каб дзед Цыбулька на самай справе гаварыў тыя словы пра зямлю-карміцельку, што ён гаворыць... Можа, і ёсць такія людзі, што не любяць зямлі, лаюць яе, але ж... Дзед Цыбулька па натуры не такі. І прапаведаваць тое, што ён прапаведуе... Ды гэта ўжо, як кажуць, з іншай оперы, тут логіка вобраза, погляд Андрэя Макаёнка... І мы, у рэдакцыі, уволю наспрачаўшыся і назлаваўшыся, усё ж здавалі ў набор новыя творы Андрэя Макаёнка. «Зацюканы апостал», «Трыбунал», «Таблетку пад язык», «Кашмар», — вось далёка не поўны пералік камедый Андрэя Макаёнка, якія мне давялося разам з аўтарам рыхтаваць у набор.

Адносіны нашы працягваліся, калі я перайшоў на працу ў Саюз пісьменнікаў. На пасадзе першага сакратара праўлення тады быў Іван Пятровіч Шамякін, лепшы сябра Андрэя Макаёнка. І Андрэй Ягоравіч як не штодзень заходзіў да Івана Пятровіча. А зайшоўшы ў Саюз пісьменнікаў, бачыў мяне, іншых супрацоўнікаў. І нашы сустрэчы часта канчаліся гутаркамі, застоллем. Зыходзячы з лепшых узораў сусветнай драматургіі, я неаднойчы гаварыў Андрэю Ягоравічу, што ў літаратуры не столькі важна ставіць розныя часовыя, хоць і балючыя сёння пытанні, як ствараць характары, тыпы. Чым больш «вечнага», не «часовага» ў творы, тым лепш... Андрэй Ягоравіч быццам згаджаўся са мною, і разам з тым... Даказваў, што чалавеку, ды і грамадству трэба сёння дапамагаць... Што ж да ўсяго астатняга... Дай божа, як кажуць, каб наша цялятка ды ваўка з'ела...

Неяк Андрэй Ягоравіч запрасіў мяне ў купалаўскі тэатр на прыёмку новага спектакля па яго п'есе «Пагарэльцы». І на абмеркаванні ў кабінеце дырэктара, дзе сабраліся тэатралы і адказныя работнікі Міністэрства культуры, ад якіх залежаў далейшы лёс спектакля, разгарэліся спрэчкі. Адны лічылі: спектакль не гатовы, яго рана выпускаць на сцэну. Іншыя, наадварот, даказвалі, што спектакль ёсць, яго як мага хутчэй трэба паказваць. Справа, — і ўсе гэта разумелі, — была не ў гатоўнасці спектакля, а ў яго вастрыні, якой сёй-той пабойваўся. Умяшаўся ў спрэчку і я. «У мяне такое ўражанне, быццам у кабінет да дырэктара са сцэны прыйшлі героі Макаёнка і спрачаюцца.... А мы ж жывём у зусім іншым часе, ды і людзі мы іншыя. Якая можа быць тут спрэчка, калі спектакль ёсць і яго трэба паказваць... Хай тыя спрачаюцца, хто будзе яго глядзець». Андрэю Ягоравічу надта ж спадабаліся мае словы, ён іх потым часта паўтараў...

Вядома, Андрэй Ягоравіч Макаёнак быў не такой простай асобай, як некаторым уяўляецца. Гарачнасць яго натуры іншы раз яму надта ж шкодзіла. Калі Андрэй Ягоравіч чаго-небудзь хацеў і дамагаўся — лепш яму не замінай, не спыняй. Інакш... Аднойчы, у цягніку, калі мы, здаецца, з Міхасём Стральцовым зайшлі ў суседні вагон, убачылі: Андрэй Макаёнак, схапіўшы загрудкі П. Ф. Глебку, што называецца, прыпаяў яго да сценкі ў калідоры. Мы ўдваіх ледзь вызвалілі Пятра Фёдаравіча. Выявілася потым: Андрэй Макаёнак задаў яму пытанне пра падзеі трыццаць сёмага года, а П. Ф. Глебка адказаў не тое, што Андрэй Ягоравіч хацеў пачуць. Рэакцыя на гэта была імгненная...

Гэтак рэагаваў Андрэй Ягоравіч часта, — загараўся, як запалка, — чым некаторыя і карысталіся, натраўлівалі яго на таго ці іншага пісьменніка і чалавека. Але потым, астыўшы, пераканаўшыся, што не «такі страшны чорт, як яму яго намалявалі», адступаўся, бо пры ўсім багацці людзей, якія яго акружалі, ён быў, як мне здавалася, надта ж адзінокі.. І гэта я асабліва бачыў, адчуваў, калі сустракаўся з Андрэем Ягоравічам у парку, на яго дачы. Ён усё жыццё шукаў людзей, якім можна было б адкрыць душу, якія б зразумелі яго, як сябе. Не ведала меж і яго гасціннасць. У любы час да яго можна было зайсці ці заехаць, і заўсёды ён быў кожнаму, хто б да яго ні завітаў, рады, адразу ж браўся накрываць на стол. Чалавек шырокай натуры, жыццялюб, ён не цярпеў дробязнасці, скнарнасці, зазнайства, казёншчыны, фанфаронства, гульні ў начальства і іншых чалавечых недахопаў і слабасцей, часта з усяго гэтага смяяўся не толькі ў сваіх камедыях, але і ў таварыскіх гутарках, застоллях. «На агеньчык» да Андрэя Макаёнка цягнуліся многія... Незадоўга да смерці, пабываўшы ў гасцях у мяне дома, ён паведаміў, што неўзабаве перабярэцца ў той раён, дзе жыву я, і тады... Будзем яшчэ часцей сустракацца, гуляць разам па вечарах...

Лёс, аднак, абышоўся па-іншаму. Быццам на міне падарваўся Андрэй Ягоравіч — быў і няма. І здарылася гэта якраз пры пераездзе на новую кватэру, у якой яму так і не давялося пажыць...

**Калектыў Літаратурнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне старшаму навуковаму супрацоўніку Марыі Нічыпараўне Далідовіч з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора—смерці БАЦЬКІ.**

